PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 38 (1897) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 20 ВЕРАСНЯ 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## АПОШНІ ЗВАНОК ДЛЯ ПУШЧЫ

У Белавежы ўжо шмат гадоў гаворыцца аб неабходнасці павелічэння паверхні Белавежскага нацыянальнага парку. Дык не толькі гаворыцца, вядуцца таксама групай вучоных, узначаленай праф. Аляксандрам Сакалоўскім, і дзейсныя намаганні. Пакуль што, парк астаецца ў старых граніцах, хаця ёсць рэальны шанц далучыць да запаведніка некаторыя фрагменты пушчы, якія непасрэдна з ім мяжуюць. Аб справах, звязаных з пашырэннем парку згадзіўся расказаць чытачам „Нівы" намеснік, а часова выконваючы абавязкі дырэктара Белавежскага нацыянальнага парку (БНП), д-р інж. Чэслаў Аколаў.

*— Спадар Аколаў, дзеля чаго трэба пашыраць БНП?*

— Нашыя намаганні наконт пашырэння парку бяруцца з таго, што ён замалы, каб паспяхова ахоўваць натуральны ход працэсаў, якія ўзнікаюць у экалагічных сістэмах (экасістэмах), а таксама забяспечыць неабходную жыццёвую плошчу шматлікім звярам (напрыклад, рысю, ваўку ці драпежным птушкам). БНП у сваёй цяперашняй постаці не ахоплівае ўсіх, характарыстычных для Белавежскай пушчы, лясных комплексаў. Напрыклад, зусім не выступае ў парку сасновы бруснічны бор. Працэсы перамен, выкліканых гаспадарчай дзейнасцю чалавека ў добраўпарадкаванай частцы пушчы дайшлі ўжо да таго моманту, калі раздаецца „апошні званок", які абвяшчае неабходнасць захавання некаторых яе фрагментаў у натуральнай постаці. Праз нейкі час на гэта будзе ўжо запозна.

*— Праект павелічэння паверхні БНП паддаваўся нейкім зменам, перапрацоўкам. Чым гэта было абумоўлена і як гэты праект выглядае сёння?*

— Ужо пры заснаванні парку ў 1921 г. яго „бацькі" здавалі сабе справу, што найлепш было б ахапіць нацыянальным паркам усю Белавежскую пушчу, але не дазваляла на гэта эканамічнае становішча адроджанай пасля падзелаў Польшчы. Чарговыя прапановы павелічэння парку вынікалі са спробаў знайсці супольны пункт гледжання з адміністрацыяй дзяржаўных лясоў, а таксама з актуальнага стану ведаў аб пушчанскай прыродзе і яе дыферэнцыяцыі. Далей лічым, што каб БНП мог выконваць свае прыродаахоўныя функцыі, яго трэба павялічыць прынамсі ў некалькі разоў, пры ўмове, што плошча дакладнай аховы была б павялічана ў нязначнай ступені, апошняя падлягала б ахове частковай. Значыць, гаспадарчая працэдура была б тут падпарадкавана патрэбам прыроднай субстанцыі, у гэтым выпадку галоўным чынам лесу, але аднолькава і іншым абшарам, напрыклад, лугам сярод лясоў ці тарфянікам.

*— Летась частка Белавежскай пушчы, якая знаходзіцца на беларускім баку, пераўтварылася з запаведна-паляўнічай гаспадаркі ў нацыянальны парк. Апошнім часам штораз часцей гаворыцца па абодвух баках дзяржаўнай граніцы аб патрэбе пашырэння статуса біясфернага запаведніка з БНП на цэлую пушчу.*

Працяг на стар. 3



**************************************************************



*–Дзякуючы такім як вы, можам верыць у чалавека,– сказаў пасол Міран Гордан.*
Фота Міхала Косця

## АДЗІНАЦЦАЦЬ СПРАВЯДЛІВЫХ

Перад 1939 г. у ІІ Рэчыпаспалітай жыло каля 3 мільёнаў яўрэяў. Ад старэйшых людзей з Беласточчыны можам яшчэ даведацца пра іх традыцыю, культуру, набожнасць, грамадскую і гаспадарчую актыўнасць. Жылі яны на гэтай зямлі ад стагоддзяў, узбагачаючы яе сваёй працай і культурай. Адносіны паміж хрысціянскім і яўрэйскім грамадствамі складаліся па-рознаму. Найчасцей былі яны добрымі, калі не ўмешвалася ніякая палітычная сіла, зацікаўленая выкарыстаннем антаганізмаў для сваіх мэтаў.

У трыццатых гадах, на хвалі ўзрастаючага шавінізму, над лёсам гэтага грамадства навісла злавеснае фатум. Нацыяналістычная хвароба найгорш

Працяг на стар. 8

## СЦЕРАЖЫЦЕСЯ ЦЁТАК РЭВАЛЮЦЫІ

З ліку людзей, з якімі даводзілася мне дагэтуль сустракацца, я з найбольшым недаверам стаўлюся да людзей надта гарлівых, перагібшчыкаў і зайздроснікаў, якім здаецца, што толькі і выключна яны ведаюць усю праўду. Сваю нястомную актыўнасць праяўляюць яны ў любых палітычных умовах, бо, відаць, такая ўжо ў іх натура.

Вось прыклад. У адной з гмінаў ужо трэці год ідзе змаганне новага са старым. Старое — гэта „няслушныя" чыноўнікі, якія пасля 1989 года, у выніку дэмакратычных выбараў, засталіся на кіраўнічых пасадах. Новае, у гэтым канкрэтным выпадку, узначалілі не першай маладосці дзеячы, якія раней апынуліся за бортам палітычнага жыцця, але не па ідэйных прычынах. Папросту, разбуяніліся яны ў сваёй дзейнасці і нарабілі такога ліха, што скампраметаваліся не толькі перад партыяй. Такія ўчынкі асуджаюцца і запаведзямі Божымі, і праследуюцца крымінальным кодэксам любой цывілізаванай краіны. Цяпер жа яны ў арэоле мучанікаў, праследаваных камуністычным рэжымам, прапаведуюць новае і варожа ставяцца да колішніх саслужыўцаў, якія напамінаюць ім іх не надта слаўнае мінулае.

На нашай абязлюдзелай Усходняй сцяне, дзе моладзі — натуральных носьбітаў новых ідэй, у дзень са свечкай шукаць прыходзіцца, такія вось дзядзькі і цёткі рэвалюцыі нярэдка ўзначальваюць новыя палітычныя структуры. Ї, менавіта, яны далей прагнуць быць адзінымі справядлівымі і разумнымі.

Трохгадовае змаганне ва ўспомненай гміне набыло ўжо амаль гратэскавы выгляд. Пасля дыскусій на гмінных форумах і скаргах ва ўсе магчымыя ўстановы, перанеслася яно ў судовую залу, дзе гадамі разглядаецца справа аб зняваге. Апошнім часам у лік прыхільнікаў старога і ворагаў новага залічаны імі нават настаяцель, які зграшыў у тым, што наняў СНДоўскіх маляроў для аднаўлення храма і такім чынам павялічыў дэфіцыт занятасці насельніцтва.

Ї так прапаведнікі новага думаюць зусім па-старому. Забываюць, што цяпер дэмакратыя і гмінных чыноўнікаў ужо выбіраюць, а не назначаюць. А ім далей хацелася б мець нейкае „палітбюро", якое паслухала б іх і адным махам памяняла б усю ўладу ў гміне.

Такія людзі водзяцца не толькі там. Їх сустрэць можна ўсюды. Актывізуюцца яны найчасцей у момантах палітычных пераасэнсаванняў. Мабыць, неўзабаве будзе можна паглядзець іх руплівасць, калі Сейм ухваліць дэкамунізацыйныя законы.

Адным словам, сцеражыцеся дзядзькоў і цётак рэвалюцыі!

**В. ЛУБА**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ, ШТО...

... w Gródku łapią bimbrowników.
*(Gazeta Współczesna, 28-29-30.08.92)*

**Схапілі ўжо 3 хлопцаў, забралі 50 літраў найлепшай у краіне жытнёўкі і, магчыма, камісійна выпілі. — Каб іх халера, — кажуць у Гарадку.**

* * *

Nowa klasa polityczna nauczyła się żyć poza kulturą. Wystarczy posłuchać przemówień. (...) Wszystko jest polityką uprawianą w bardzo specyficzny sposób. Wszyscy mówią, nikt nie chce słuchać.
*(Polityka, Nr 36)*

**У беларускім асяроддзі Беласточчыны не інакш.**

* * *

Działacze Związku Białorusinów w Polsce zwrócili się do władz miejskich z pomocą finansową w zorganizowaniu w Siemiatyczach Festiwalu Kultury Białoruskiej. W mieście brakuje pieniędzy na polską kulturę.
*(Głos Siemiatycz, 14.08.92)*

**Вазьмі і зразумей — ці то беларусы прасілі грошай у гарадской улады, ці то давалі ёй грошы? У кожным выпадку — улада адмовілася. Ну бо яна займаецца польскай культурай.**

* * *

**Ад 12 да 89 тысяч рублёў атрымае кожны з нас пасля прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці. Колькі канкрэтна і калі — вырашыць восеньская сесія Вярхоўнага Савета Беларусі.**
***(Народная газета, 22.08.92)***

**У Польшчы мелі даць па 100 мільёнаў злотых кожнаму. Народ усё яшчэ чакае і спадзяецца.**

* * *

**Чытачка *„Народнай газеты"* ў сваім допісе:**
**„Да, это страшно, когда закрывают русские школы. Все отлично знают, что никто не смотрит телевизор на местном холопском языке, и порой не знают, что делается в Белоруси, не читают книг на этом языке."**

**Закройте эту холопскую Беларусь, товарищи!?**

* * *

**У той жа *„Народнай газеце" (26.08.92)*:**
**„Ваша мова такая людская і панская, як і іншыя — не раз паўтаралі гэтыя словы слухачы Міжнароднай школы беларусістыкі."**

**Тоже мне паны нашлися!**

* * *

**Па тэлебачанні паказвалі, як кандыдат тэхнічных навук выклікае дух Скарыны. „Спытайце, — перапрасіў каментатар, — ці падабаюцца яму перадачы Беларускага тэлебачання". „Очень", — адказаў Скарына.**
***(Літаратура і Мастацтва, 28.08.92)***

* * *

Panuje dość powszechne przekonanie, że w międzywojennej Polsce, wolnej i suwerennej, stosunki między państwem a Kościołem katolickim układały się dobrze. Jest to przekonanie błędne.(...) Rzeczpospolita nie stała się państwem katolickim. (...) Kościół nie zrealizował więc swego generalnego celu. Byłoby jednak grubą przesadą stwierdzenie, że poniósł porażkę. Należy bowiem pamietać, że Kościół działa w innej perspektywie czasowej, dłuższej niż kilka czy kilkanaście lat. Dlatego rozsądniej będzie stwierdzić, że w II Rzeczpospolitej stworzono przesłanki do budowy Polski katolickiej.
Andrzej Garlicki *(Polityka, 05.09.92)*

Niewątpliwie, panie profesorze. A w III Rzeczpospolitej założono już solidne fundamenty.

* * *

**Што засталося з евангелічных могілак у Беластоку? Яшчэ ў 1987 годзе:** Niektóre pomniki stały, inne były przewrócone i rozbite.(...) Dzisiaj na byłym cmentarzu ewangelicznym nie ma już ani jednego „stojącego pomnika", niemal wszystkie sa porozbijane.
Паводле *Gazety Wyborczej*
(nr 205, dodatek regionalny)

**А здавалася б, што 99% жыхароў Беласточчыны — гэта хрысціяне.**

# З мінулага тыдня

**У выніку нядаўняй атакі на гуманітарны канвой ААН каля Сараева загінулі два французскія салдаты. Агулам на тэрыторыі былой Югаславіі загінула 13 і ранены 264 салдаты ААН. Сем забітых салдат — гэта французы, два — украінцы, два — аргенцінцы, адзін — бельгіец і адзін — канадзец.**

**Прэзідэнт Лех Валэнса назваў люстрацыю (дэкамунізацыю кадраў у дзяржаўным і самаўрадавым апараце) тэмай „слушнай, але надуманай" і падкрэсліў, што найважнейшай справай у даны момант з'яўляецца пабудова будучыні. Прэзідэнт не выключыў магчымасці ўвядзення прэзідэнцкай сістэмы ўлады ў выпадку, калі праз паўгода рэформы не набяруць хуткіх тэмпаў.**

**У Польшчы асталося яшчэ каля 10 тысяч расейскіх салдат, 63 бронетранспарцёры, 3 устаноўкі супрацьпаветранай абароны, звыш 5 тысяч аўтамашын, 4 транспартныя самалёты і 2 верталёты. Няма ўжо ні баявых самалётаў, ні танкаў.**

**З 1 верасня ЗУС пачаў выплачваць павышаныя пенсіі для 1 мільёна 200 тысяч чалавек, якія атрымоўваюць самыя нізкія грашовыя забеспячэнні. Цяпер найніжэйшая пенсія або інвалідская рэнта I катэгорыі ўрасце на 78.400 зл., а рэнта II катэгорыі — на 60.400 зл.**

**У Беластоку праходзіў штогадовы навуковы з'езд Польскага хімічнага таварыства і Згуртавання інжынераў і тэхнікаў хімічнай прамысловасці пад лозунгам „Хімія ў ахове здароўя і асяроддзя чалавека". Удзельнічала ў ім восемсот навукоўцаў з усяе краіны, а таксама госці з Беларусі, Славакіі, ЗША і Канады.**

**Управа горада Беластока** вырашыла, што будынак па вуліцы Сянкевіча 3 („Эмпік") не будзе перададзены Згуртаванню Польшча-Усход (раней ТППР — Таварыства польска-савецкай дружбы), якое дагэтуль карысталася ім і лічыла яго сваёй уласнасцю. Аргумент, што гмах збудаваны са складчын членаў ТППР не пацвердзіўся і гарадскія ўлады лічаць яго сваёй уласнасцю. Горад намерваецца перадаць гэты будынак Гаспадарча-прамысловай палаце.

**У Белавежы пачаўся XXVII Міжнародны пленэр „Мастацкія сустрэчы пагранічча"**, у якім удзельнічае дваццаць мастакоў, у тым ліку госці з Беларусі, Літвы і Узбекістана. Пленэр закончыцца 27 верасня, а яго вынікі будзе можна паглядзець на выстаўцы ў Прыродазнаўча-лясным музеі ў Белавежы.

**Неўзабаве ў магазінах з'явіцца таннейшы цукар.** Агенцтва сельскагаспадарчага рынку перадасць у гандлёвую сетку некалькі дзесяткаў тон цукру па аптовай цане 7 тысяч зл. за кілаграм з засцярогай, што павінен ён прадавацца па 8500 зл.

**Напад са шпрыцам.** У Гайнаўцы ў магазін з кветкамі ўвайшла маладая дзяўчына са шпрыцам, напоўненым нейкай вадкасцю і заявіла прадаўшчыцы, што яна хварэе СНІДам, а вадкасць у шпрыцы — гэта яе заражаная кроў. Прыгразіла яна, што ўколе прадаўшчыцу, калі тая не аддасць ёй грошай. У касе было 50 тысяч злотых. Шантажыстка забрала іх і ўцякла. Неўзабаве паліцыя злавіла зладзейку, якой аказалася дваццацігадовая жыхарка Бельска-Падляшскага, маці аднагадовага дзіцяці. Пасля допыту дзяўчыну выпусцілі...

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"


- Бежанцы – слёзы, тыф, голад і пакута.
- П. Ярашэвіч – „наш хлопец"?
- Экалагічныя праблемы Бельска.
- На Спленне ў Чыжы.
- Беларускі конкурс для настаўнікаў?


# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

**ШУШКЕВІЧ ВАЯРНУЎСЯ З ПЛАНАМ**

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч нядаўна наведаў Паўднёвую Карэю. Спікер беларускага парламента быў вельмі здзіўлены, давedaўшыся, што ў капіталістычнай Карэі добра „прыжылася" планавая эканоміка — адзін з краевугольных камянёў фундамента сацыялізму. Вопыт Паўднёвай Карэі спадабаўся Станіславу Шушкевічу і ён заявіў журналістам, што Беларусі таксама нявартa цалкам адмаўляцца ад планавай эканомікі.

**ПРАФСАЮЗЫ — НАДЗЕЯ БЕЗЗЯМЕЛЬНЫХ**

Тысячы беларускіх сялян, жадаючых стаць фермерамі, усё яшчэ не могуць атрымаць зямлю.

Былая камуністычная наменклатура, якая засела ў мясцовых органах улады, усяляк перашкаджае вяртанню капіталізму ў вёску. Таму Цэнтральная рада Беларускае сялянскае партыі вырашыла стварыць прафесійны Саюз беззямельных. Мажліва, гэты прафсаюз абароніць вяскоўцаў ад усемагутнай бюракратыі.

**ХАТА ДЛЯ ДЫПЛАМАТА**

Значны недахоп памяшканняў для ўладкавання ў сталіцы рэспублікі замежных пасольстваў і прадстаўніцтваў прымусіў Старшыню Савета Міністраў Беларусі Вячаслава Кебіча правесці спецыяльную нараду па гэтым пытанні. Вырашана праверыць мэтазгоднасць выкарыстання службовых памяшканняў дзяржаўных прадпрыемстваў і ведамстваў, каб адшукаць у выніку добраўладкаваныя куткі для жылля і работы „бяздомных" замежных дыпламатаў.

**ПРЫСЯГУ НА ВОСЕНІ ПРЫМАЮЦЬ**

6 верасня на плошчы Незалежнасці, што ў Менску, 480 курсантаў з першага набора будучых беларускіх афіцэраў прынялі вайсковую прысягу на вернасць дзяржаве і народу. Цікава, што тэкст прысягі разлічаны толькі на маладых салдат і курсантаў, а афіцэры ўзброеных сіл сваёй прысягі яшчэ чакаюць — тэкст яе павінна зацвердзіць восеньская сесія Вярхоўнага Савета Беларусі.

**У ЧУЖУЮ КРАІНУ ЗАКІНУЎ ІХ ЛЁС**

Звыш 75 тысяч жыхароў Масквы падчас апошняга перапісу назвалі сябе беларусамі.

Аднак да гэтага часу ў сталіцы Расейскай дзяржавы няма ніводнага беларускага храма, адсутнічае нават нядзельная школка, у якой бы дзеці вывучалі мову сваіх бацькоў. Таму актывісты беларускага зямляцтва сабралі ўстаноўчы сход, на якім стварылі Маскоўскае аб'яднанне беларусаў „Бацькаўшчына". Згодна статуту, галоўная мэта гэтага аб'яднання — вывучэнне і прапаганда беларускае мовы, гісторыі і культуры.

**ФРАНКІ, СТЭРЛІНГІ І ТУГРЫКІ...**

З першага верасня замежная валюта на Беларусі прадаецца без абмежаванняў, калі толькі не абумоўленага адсутнасцю наяўных грошай у камерацыйным банку. - валютны рынак рэспублікі пакуль даволі бедны.

**ЛЕПШ БЫЦЬ ЗДАРОВЫМ, ЧЫМ БАГАТЫМ**

Гомельскі аблвыканкам нарэшце дазволіў жыхарам Беларусі і іншых краін СНД сяліцца ў... забруджаных радыяцыяй гарадах вобласці.

Адразу пасля аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі ўлады Гомельшчыны забаранілі людзям сяліцца ў радыяцыйных мясцінах. Прычына — мясцовыя і рэспубліканскія начальнікі баяліся, што абяцаныя ўрадам матэрыяльныя ільготы чарнобыльцам выклікаюць вялікі наплыў мігрантаў у забруджаныя радыяцыяй гарады. Аднак апасенні гэтыя не спраўдзіліся, наадварот, толькі за апошнія два гады з радыяцыйных мясцін Гомельшчыны выехала 16 тысяч сем'яў. А ў параненых Чарнобылем гарадах і вёсках зараз не хапае настаўнікаў і лекараў.

**ЯКІЯ ТУТ НЕРЭАБІЛІТАВНЫЯ? ВЫХОДЗЬ!**

На пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета рэспублікі вырашана на пяць гадоў, да 1996 года (уключна), павялічыць тэрмін завяршэння работы па рэабілітацыі ахвяр палітычных рэпрэсій. З 75410 спраў, якія патрабуюць вывучэння, ужо разгледжана 4416 архіўных крымінальных і 1316 судовых, рэабілітавана 6575 чалавек.

**МАХЛЯРЫ Ў ЗАКОНЕ**

Каму ў набыцці замежнага пашпарта пасадзейнічалі знаёмыя, хто звярнуўся да паслуг каапсратыва ці вулічных гандляроў, а вынік, урэшце, атрымаўся адзін — на польска-беларускай граніцы за два апошнія месяцы на падробленых дакументах былі затрыманы 14 грамадзян СНД, у тым ліку 4 з Беларусі.

**ДОЎГІ ШЛЯХ ДАМОЎ**

Працягваць службу на тэрыторыі Беларусі вернуцца 1.300 вайскоўцаў, прызваных з рэспублікі і праходзячых службу на заставах Сярэднеазіяцкай пагранічнай акругі. Такое рашэнне прыняло ўпраўленне пагранічных войскаў Савета Міністраў Беларусі.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# АПОШНІ ЗВАНОК ДЛЯ ПУШЧЫ

*Працяг са стар. 1*

*Якая карысць можа быць з гэтага для пушчы?*

— Стварэнне трансгранічнага біясфернага запаведніка, пашыранага на ўсю Белавежскую пушчу, стварыла б умовы для аховы збережоных тут лясоў натуральнага характару, часта набліжаных да лясоў першабытных. Адначасова зрабіла б магчымым зберажэнне выключнай біяразнароднасці гэтай тэрыторыі, у якой каля 17-ці тысяч відаў жывых істот (раслін, грыбоў, жывёлін). Праўда, апошнім часам рэкламуюцца розныя даследаванні, фінансаваныя Сусветным банкам, над зберажэннем пушчанскай біяразнароднасці, але яны абмяжоўваюцца толькі да розных відаў дрэў. Правільна функцыянуючы біясферны запаведнік стварае ўмовы для выпрацоўкі трывалага выкарыстоўвання запасаў прыроды, значыць не толькі драўніны, паляўнічай жывёліны і лясного руна, але таксама эстэтычных, турыстычных і генетычных вартасцяў, у рацыянальны спосаб, так, каб зберагчы іх для нашых нашчадкаў. Трэба яшчэ тут дабавіць, што кожны з названых 17 тыс. відаў жывых арганізмаў можа стацца карысным у будучыні, а, на жаль, шматлікія з іх згінуць яшчэ да таго, пакуль іх апазнаем. Працэс гэты можам наглядаць не толькі ў амазонскай джунглі, але і ў Белавежскай пушчы.

*— Увядзенню асноўных зменаў у гаспадарку пушчы найбольш супрацьставяцца самі леснікі. Чаго яны апасаюцца і ці ёсць гэтаму падставы?*

— Цяжка мне гэта растлумачыць, хаця і я па адукацыі ляснік. Раней, з 30 гадоў таму назад, калі я пераходзіў на працу ў нацыянальны парк, меў зручны выпадак працаваць у надлясніцтве Бельск-Падляшскі пад кіраўніцтвам светлага лесніка, на жаль, ужо пакойнага, Уладзіміра Федарука. Як адзін з нешматлікіх леснікоў маю я II ступень прафесіянальнай спецыялізацыі ў ахове лесу. Думаю, што сябры леснікі непатрэбна баяцца змены цяперашняга спосабу дзейнасці і неабходнасці перакваліфікавання, бо ім не пагражае страта месцаў працы. Дасюль скарачэнні штатаў не датычылі БНП, а менавіта такое наглядаецца ў надлясніцтвахпа-суседску.

*— З пушчы жыве — непасрэдна ці пасрэдна — шмат жыхароў Белавежы, Гайнаўкі і навакольных вёсак. Яны таксама баяцца зменаў. Які быў бы іх лёс у новай сітуацыі?*



*Д-р інж.Чэслаў Аколаў.*

— Жыхары пушчанскіх раёнаў не павінны баяцца зменаў у сувязі з павелічэннем парку. У месца заняткаў пры высечцы дрэў, прыйдуць заняткі пры дзеяннях звязаных з аховай паасобных відаў раслін ці, напрыклад, матылёў. Узрасце таксама колькасць месц працы звязанай з турызмам, развіццём экалагічнага земляробства і блізкім ім паслугам.

*— Расцягненне статуса біясфернага запаведніка на ўсю пушчу гэта вырашэнне аптымальнае. Але калі б не ўдалося гэтага дасягнуць, што тады трэба зрабіць для зберажэння вартасцяў гэтага лясного масіву? Ці існуе наогул альтэрнатыўная канцэпцыя?*

— Зразумела, што так, і ў гэтым напрамку ідуць намаганні дырэкцыі і навуковай рады БНП. Аднак абняццю ўсёй пушчы статусам біясфернага запаведніка мусіць спадарожнічаць павелічэнне нацыянальнага парку і распрацоўка новых прынцыпаў гаспадарання на гэтай плошчы, значыць лясніцтва, паляўніцтва, турызму і земляробства, згодна з патрабаваннямі ЮНЭСКА. Дабавачным патрабаваннем з'яўляецца гарантыя трывалых асноў аховы, а можна гэта дасягнуць двяжка: у выніку абняцця цэласнасці статусам нацыянальнага парку або стварэння ў добраўпарадкаванай частцы пушчы і на сумежных заселеных палянах ландшафтнага парку.

Гутарыў
**ПЁТР БАЙКО**

**********************************************************************

# АМЕРЫКАНСКІ ТЭМП

Аб тым, што з рамонтамі можна справіляцца вельмі хутка, можа сведчыць хаця б прыклад агароднінна-малочнага рынку, які знаходзіцца на вул. Баторыя ў Гайнаўцы. Мясцовае прадпрыемства камунальнай і жыллёвай гаспадаркі папрацавала тут сапраўды амерыканскім тэмпам. Хутка і салідна работнікі гэтай фірмы выканалі агароджу і падмуркі пад яе, прадоўжылі базарныя сталы, змянілі дашкі і растаптаную трылінку ну і, вядома, памалявалі ўсе элементы, якія патрабавалі новай афарбоўкі. Некаторыя пакупнікі нават не заўважылі, калі праводзіўся гэты рамонт.

П.Б.

## ЯК НАМ ДАБІРАЦЦА ДАДОМУ?..

... ужо трэці тыдзень мазгуюць жыхары Клюкавіч і навакольных вёсак, якім часам давядзецца з'ездзіць у Бельск або Беласток. Пачынаючы з 1 верасня Сямяціцкае аддзяленне ПКС паскорыла выезд на трасу апошняга аўтобуса з Сямяціч у Вычулкі. Да гэтай пары выязджаў ён а гадзіне 17.40 і ўсе тыя, што вярталіся з Бельска або Беластока на аўтобусе або цягніку, маглі рабіць перасадку ў Мілейчыцах або Нурцы-Вёсцы. Цяпер гэты аўтобус пачынае свой маршрут амаль на паўтары гадзіны раней (а 16.25) і пасажыры, якія пасля абеда вяртаюцца з напрамку Беластока перасцяцца ўжо не паспяваюць.

Трэба тут дабавіць, што гэтаму аўтобусу не трэба нідзе спяшацца, бо начуе ён у Вычулках і вяртаецца ў Сямяцічы на другі дзень а гадзіне 4.10. Жыхары Тымянкі, Сяміхочаў, Пяшчаткі, Літвінавіч, Клюкавіч і Вычулак здзіўляюцца гэтаму сюрпрызу сямяціцкіх транспартнікаў і патрабуюць, каб гэты аўтобус зноў пачаў ездзіць па строму раскладу. (Л)

# ГОРКА, ГОРКА...

Расказвала мне сяброўка, як у суботу 29 жніўня ў вёсачцы Калітнік каля Міхалова — тры хаты ўсяго — прадаваў чалавек цукар з машыны (няма там крамы, дык раз у тыдзень прыязджае лаўка на калёсах) па 9800 злотых за кілаграм. Гаварыў ён: „Купляйце, купляйце, у панядзелак, пабачыце, па трынаццаць тысяч будзе". „А мы ўжо запасы зрабілі", — адказвалі яму бабулі.

Але не ўсе былі такія прадбачлівыя і ў пачатку верасня сустрэла іх нямілая неспадзяванка. Цукар з крамаў знік, а дзе ў якой і быў, дык амаль удвая даражэйшы. Цана падскочыла з 6,5 — 7-мі тысяч злотых за кілаграм да 11 — 12-ці, а то і да 13-ці тысяч.

Напрыклад, у Беластоку можна было дастаць цукар толькі ў меншых крамах, на перыферыйных вуліцах, па 12 тысяч. У Бельску на базары, з грузавіка, прадавалі па 11 тысяч. У вёсцы Тыневічы ў Нараўскай гміне ёсць тры розныя крамы: ГС-аўская, фірмы „Пронар" з Нарвы і прыватная ў аднаго гаспадара. 2 верасня цукру не было ўжо ў ніводнай.

Напалоханыя людзі, калі трапілі і на дарагі, бралі яго, балазе добра памятаюць час, калі ў магазінах былі адно пустыя паліцы.

Міністэрства сельскай гаспадаркі і Агенцтва сельскагаспадарчага рынку звярнуліся да прэм'ер-міністра Ганны Сухоцкай з прапановай кінуць на рынак цукар з дзяржаўных рэзерваў. Гэта панізіла б яго цану. Адначасова — аргументуюць яны — трэба павысіць мыта (з 40-ка да 80-ці % вартасці тавару) на імпарт цукру, каб не паявіўся ў нашых крамах у вялікай колькасці танны з Захаду. Тады будуць капцы для ўсяе айчыннае прадукцыі.

Выпуск на рынак дзяржаўных рэзерваў і хуткая зборка цукровых буракоў павінны, здаецца, давесці да паніжэння цаны цукру. Тое ж гавораць спецыялісты і адначасна асцерагаюць людзей перад пакупкамі значнай колькасці дарагога. Але людзі сваё ведаюць і ўсё ж такі запасаюцца.

Калі гэты нумар „Нівы" трапіць у рукі чытачоў, будзе відно, хто мае рацыю — той хто купляў яго без агляду на апініі спецыялістаў ці той, хто паверыў урадавым гарантыям і стрымаўся ад пакупкі.

М.В.

## ДОЖДЖ У НАРВЕ

6 верасня прайшоў у Нарве беларускі фэст, арганізаваны Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку і Гмінай управай у Нарве. Імпрэза тая, як і папярэднія мерапрыемствы БГКТ у гмінах, мелася праводзіцца на паветры — на рыначку ў цэнтры Нарвы. Гэтым разам аднак надвор'е не паспрыяла арганізатарам. Дождж, які навісаў ад пару дзён над Беласточчынай, загнаў і артыстаў, і публіку пад дах — у клуб пажарніка.

На пачатку фэсту, традыцыйна ўжо, слова ўзяў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі. Пра непрыхільных Таварыству людзей, якія вяшчаюць смерць арганізацыі, гэтым разам прамоўца не згадваў. Сказаў затое пра ўкраінскіх місіянераў на Падляшшы. З людзьмі, якія напорыста прапагандуюць чужыя насельніцтву ідэі, Таварыства сябраваць не будзе.

З канцэртам у Нарве выступіў усяго адзін калектыў — „Гарадніца" з Гародні. Хоць дажджлівае надвор'е і не заахвочвала ў гэты дзень выходзіць з хаты, нараўляне па берагі запоўнілі невялічкі клуб і можна было заўважыць, што неахвотна пакідалі пасля канцэрту ягоныя змрочныя сцены.

(ам)

# НА РЫНКУ Ў БЕЛЬСКУ...

... цэны не мяняліся на працягу двух апошніх тыдняў. Асартымент тавараў таксама.

Найбольшы рух быў у гандлі збожжам. Можна было заўважыць грузавікі з цэнтральнай Польшчы, якія аж сюды прыехалі за зернем. А вось яго цэны:

— пшаніца — 170 —180 тысяч злотых за цэнтнер,
— ячмень — 130 —140 тысяч (цана ад 10 верасня, бо 3-га я ячменю не бачыў),
— авёс — 140 —160 тысяч,
— мяшанка (авёс, пшаніца, ячмень) — 130 —140 тысяч,
— жыта — 100 тысяч злотых за цэнтнер.

10 верасня паявілася больш бульбы. Прасілі за яе наогул 150 тысяч, але пахадзіўшы можна было купіць і таннейшую — па 120 тысяч за 100 кілаграмаў.

Падчас капання бульбы неабходны плеценыя кашы. На рынку было іх шмат, прычым зграбныя, спраўна зробленыя. Прадаваліся ўжо па 40 тысяч за штуку.

Жывёлы было няшмат, найбольш — парасят. Пара 7—8-тыднёвых парасят каштавала ад 600 да 800 тысяч. Адна гаспадыня за пару рыжых падсвінкаў (кілаграмаў па 60) хацела 1.400 тысяч злотых.

Падаражэлі авечкі — цанілі іх нават па 400 тысяч за штуку. Аднак можна было купіць танней — адзін гаспадар пару авечак прадаваў за 650 тысяч.

Каровы з цялятамі цаніліся па 6 — 6,5 мільёна. Тую ж самую карову без цяляці можна было купіць на мільён танней.

ак




Частка X

Традыцыяналізм у мысленні беларускага сялянства ў Польшчы праяўляецца вельмі выразна. Цікава тое, што я ведаю погляды многіх маіх сённяшніх размоўцаў, выказваныя імі дзесяць-пятнаццаць-трыццаць гадоў таму назад. Гэтыя людзі былі тады далёкімі ад усялякай ідэалізацыі тагачаснай эканамічнай рэчаіснасці. Наракалі яны рэзка і адназначна на гаспадарчую палітыку Берута, Гамулкі, Герака і Ярузельскага. Лічылі, што ўсе гэтыя ўрады не бралі пад увагу інтарэсы сялянства. Сёння тыя ж самыя людзі лічаць, што сельскагаспадарчая палітыка, асабліва ўрада Гамулкі, Герака і Ракоўскага, была вельмі добрай. Праўда, ніхто са старэйшых не хваліць сёння Берута. Усе яны гавораць, што Берут аблажыў вёску жорсткімі абавязковымі пастаўкамі, істота якіх заключалася ў амаль бясплатнай аддачы збожжа, бульбы і мяса дзяржаве. Шасцідзесяцігадовы селянін заяўляе: „Берут то быў разбойнік. Ён так аблажыў вёску абавязковымі даставамі, што не было як крутануцца. Берут хацеў загнаць мужыкоў у галечу, каб пасля яны „добравольно" пашлі ў калхозы. Але ён доволі рано сконаў, после того як Хрушчоў сказаў праўду пра Сталіна. Тады настаў Гамулка і ён павёў зусім другую, больш чалавечую, палітыку. Зліквідаваў абавязковы доставы і перастаў заганяць у калхозы. Ну, а сягоння то чорт ведае, што робіцца. Вядома, што ніхто ў калхозы не заганяе, але на збожэ то панство ўстанавіло такіе цэны, як пры Беруце. Хто ж гэто бачыў, каб мэтэр жыта каштаваў сорак тысяч злотых, а мэтэр салетры двесце дваццаць тысяч. То жыто гэто збожэ, а салетра гэто зямля. То як можэ зямля каштаваці шэсць раз даражэй чым збожэ? Гэто ж разбой?! Ты жывеш у Варшаві. Цябе час ад часу паказваюць у тэлевізары. Хібо і ў Валэнсы бываеш. То чы ты не мог бы ім там сказаць, што мы зноў да Берута варочаемся?"

## БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Практычна амаль усе мае размоўцы ўважаюць, што ўсе тыя змены, якія выступаюць у Польшчы ў апошніх гадах, вядуць да біды. Некаторыя спасылаюцца на свяшчэнныя кнігі і гавораць, што ў іх напісана, што чакаюць нас вялікія беды за нашы грахі. Яны лічаць, што людзі самі заслужылі на зло і тое, што дзеецца гэта, пакаранне іх Богам. Аднак частка размоўцаў існуючую сітуацыю не звязвае з небам, а толькі выключна з людзьмі.

Для першай катэгорыі асоб характэрнае выказванне сямідзесяцігадовай жанчыны.

„Тое, што цяпер пачынаецца гэто божая кара за нашыя грахі. Людзі разжыліся, разбагацелі і пачалі забываці пра Бога. Ці ты ні бачыш, што робіцца. Ї гэто ж грэх над грахамі. Людзі, як коні воду, так п'ют ведрамі водку. П'ют старые, п'ют маладые, п'ют бабы, дзеці. Такога ніколі яшчэ ні было. Каліcь, бывало, здараўся адзін п'яніца на дзве вёскі, а сягодня ў каждой другой хаці п'яніца жыве. Скажэце мне, хто сягодня пацер говорыт перад сном? Хто лоб пераҗагнае перад едзэнем? Хто з маладых ідзе ў царкву? А калі і пойдуць дзєўкі, то не глядзят на райскі варота, а толькі за кавалерамі разглядаюцца. От і приходзіт на людзей боскае скаранне. Пакарае Бог і холадам, і голадам і толькі тады людзі апомняцца."

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# БАЛАХОВІЧ

*(пачатак у папярэднім нумары)*

### У РАСІЙСКАЙ АРМІІ: ЦАРСКАЙ, ЧЫРВОНАЙ І БЕЛАЙ

Балаховіч пайшоў на вайну ў жніўні 1914 г. як добраахвотнік, конна і збройна. З самага пачатку паказаўся выдатным кавалерыстам, таму і накіравалі яго проста на фронт. Баявы вопыт здабыў у баях пад Варшавай. У палове 1915 г. вялікае наступленне немцаў і аўстрыйцаў адпіхнула рускія войскі на лінію ад Тарнопаля праз Пінск і Дзвінск да Рыжскага заліва. Балаховіч знайшоўся са сваім лейб-уланскім курляндскім палком непадалёк ад родных мясцінаў. Восенню 1915 г. Балаховіч, ужо прапаршчык, уступіў у партызанскі атрад Пуніна, які рабіў дыверсійна-разведачныя рэйды на нямецкія тылы пад Рыгай. Немцы аб'явілі партызанаў незаконнымі, не бралі іх у палон, вешалі нават іх трупы. Партызаны з тае прычыны насілі з сабой ампулы з атрутай і называлі сябе „рыцарамі смерці". Самога Балаховіча немцы называлі не інакш, як „фэрфлюхтэ Фатэр", значыцца — „пракляты Бацька". Пад канец вайны атрад Пуніна пайшоў у россып і засталася толькі яго частка пад камандаваннем Балаховіча, ад 1917 г. — ротмістра.

Пасля дэмабілізацыі расійскай арміі, на прадвесні 1918 г. Балаховіч уступіў у Чырвоную Армію. З дазволу Троцкага пачаў фармаванне партызанскага палка ў горадзе Лузе. Троцкі надта ж відаць давяраў Балаховічу, бо вылучыў яго атрад з-пад кантролю ваеннага камісара. Неўзабаве паказалася, што з мясцовымі бальшавіцкімі ўладамі Балаховіч усё-такі не ладзіць. Балахоўцаў пасылалі супраць сялян, якія бунтаваліся пад невыносным цяжарам г.зв. „прадразверсткі". Балаховічу хутка абрыдла вешаць і страляць невінаватых мужыкоў і употайкі пачаў перабіваць камуністаў і членаў г.зв. „камбедаў". Ахоўны парасон, які расклаў над сваім падапечным Троцкі, перастаў дзейнічаць. Балаховіча паклікаў да сябе намеснік камісара Паўночнай камуны Багацін і пагразіў яму Рэвалюцыйным трыбуналам. Атаман не чакаў расправы, на пачатку лістапада сабраў свае атрады ў раёне станцыі Стругі-Белыя і пачаў рухацца ў напрамку лініі фронту. Следам за ім прыехалі ў Стругі-Белыя пасланнікі начальніка петраградскай Чэка, Урыцкага, якія мелі загад арыштаваць, а то і забіць непакорнага кампалка. Паказалася аднак, што падначаленыя камісарам палкі адмаўляюцца выканаць загад. 6 лістапада балахоўцы, пад сцягамі і з музыкай, перасяклі лінію фронту.

Немцы, якія панавалі тады ў Пскове, накіравалі атрад Балаховіча на аддалены ўчастак фронту, а самі неўзабаве ўцяклі разам з цэлым добраахвотніцкім белым Пскоўскім корпусам у Рыгу, пакідаючы горад бальшавікам. Такім чынам Балаховіч знайшоўся на глыбокіх тылах бальшавікоў, аж прабіўся ў Эстонію і цэлую зіму ваяваў на эстонскім баку, за што прысвоілі яму чын падпалкоўніка. Нешматлікая, але гераічная эстонская армія да вясны 1919 г. выцясніла, з дапамогаю фінаў, бальшавікоў са сваёй тэрыторыі. Пачалася арганізацыя белых войск дзеля атакі на Петраград.

Балаховіч партызаніў тымчасам на берагах вялікага Чудскага возера, якое аддзяляе Эстонію ад Расіі. Ягоныя „сынкі" падмянілі коней на караблі і, быццам карсары, атакавалі Пірысар, іншыя астравы і Раскопельскі заліў, дзе схавалася бальшавіцкая Чудская флатылія. Самым вялікім дасягненнем Балаховіча стаў у той час нечаканы захоп горада

*Працяг на стар. 8*

## БЕЛАРУСУ НЕ ПАТРЭБНА СВАБОДА?

Калі прыслухацца да яго цяперашняга плачу, то падобнае на тое, што — сапраўды! — свабода яму непатрэбна. На хлеб яе не намажаш...

Так дзіўна складваецца, што беларусам неяк заўсёды лепей ужо было. У царскую рэкрутчыну ўспаміналі даўнюю Польшч, якая трымалася ж амаль без арміі. Пасля вядомага дваццатага году ізноў прыйшлі палякі і тады аказалася, што *„за царом пілі чай з пірагом"*. У верасні трыццаць дзевятага нашы віталі саветаў як вызваліцеляў ад беспрацоўя і ад паноў. Чырвоныя дабрадзеі надалі работы, але без прыбытку, а спраўнейшых перлі ў Сібір. Бяда!

Выручылі немцы: падаткамі не дабівалі, гаспадарлівейшых хвалілі. Саладосці, аднак, спазналася няшмат, бо партызанаў Масква наскідала з самалётаў і Сталін трымаўся. Моладзь вывозілі да баўэраў.

Прыканцы вайны Польшча трэці раз тут расселася, не тая забытая першая і не памятная другая, але якаясьці дэмакратычная. Хітрэйшыя з нас, доўга не чакаючы, драпанулі ў пасляжыдоўскія дамы ў Бельску ці ў Беластоку або ў пакінутыя Прусы. Павыпраўлялі дзетак у школы, у фабрыкі, усё роўна куды, каб толькі не на зямлі сядзелі, на якой заганялі ўсенька жывое ў *„калхозы"*. Кляні спадцішка камунізм, унукаў сяк-так гадуючы, а ён жа ўзяў, во, і ўпаў ... Хто мог падумаць?!

Настала ўлада „Салідарнасці" і беларусец каторы ўжо раз горка заплакаў па добрым мінулым часе. Але, як ты не хліпай, чалавеча наш, а камуняк для ратавання цябе не ўваскрэснуць. Каюк ім і капцы! Гісторыя-пані рагоча з тваіх слёзаў, як і столькі разоў дагэтуль. Пытаю я: чаму гэта ты робіш з сябе аж такое пасмешышча... Ведаю, ведаю, пачнеш круціць: дурны я, бо бедны, а бедны, бо дурны.

Не будзь жа з дзіцячымі мазгамі, перастань думаць, што камунізм Гарбачоў прадаў (наадварот, ён яго спрабаваў адратаваць). Капіталізм пабароў не справядлівасцю, а большай, якасцейшай і таннейшай прадукцыяй. Задушыў эканамічна, хоць паўвеку назад сілы лічыліся даволі роўнымі паміж Усходам і Захадам. Напрыклад, у сорак восьмым — аж сорак тры працэнты тавараў у свеце выраблялася на нашым баку. Аднак, праз сорак гадоў пасля, — усяго васемнаццаць, што не значыць, каб мы тут апусціліся ў нейкае фестывальнае гультайства. Нашы прыатлантычныя антаганісты сваёй некамуністычнай працавітасцю АБАГНАЛІ НАС У ПЯЦЬ РАЗОЎ, давялі да таго, што Савецкі Саюз і ягоныя сатэліты перасталі мець гаспадарчае значэнне на зямной кулі, акрамя як ваеннае. У апошні год жыцця гэтай маскоўскай імперыі заквапіфікавалася яна ў міжнародных ацэнках дабрабыту насельніцтва на далёкім семдзесят восьмым месцы, недзе на ўзроўні лацінаамерыканскіх люмпенскіх рэспублікаў. З тэндэнцыяй да далейшага спаду. У Еўропе ж горай жылося толькі ў Албаніі.

Да бальшавіцкага перавароту ў Расіі гэтая краіна карміла хлебам паўсвету. Сёння ж кожная другая буханка ў тамашніх пякарнях пячэцца з амерыканскай або канадскай мукі, і то ў старонні, дзе ў адной дэльце ракі Волга знаходзіцца больш арэалу чарназёму, чымсьці ў абедзвюх Амерыках, Афрыцы, Азіі (разам узятых). І сама Польшча дакацілася да абсурду. Хто гэта калі чуў, каб у такой, як ні кажы някепскай дзяржаве, уласны мэтар жыта на месцы каштаваў даражэй за прывезены чорт ведае адкуль, а не бліжэй як з Францыі або Заходняй Нямеччыны! Сёлета за смачныя і буйныя памідоры з Галандыі я плаціў менш, чымсь за марныя і кіслыя ў знаёмага агародніка. І да чаго мы дажылі?

Філасофія беларускага гаспадара — гэта філасофія паншчыннага халопа, якому шанцуе то на добрага, то на благога пана. Такому людзіну свабода непатрэбна, бо ў ёй ён памрэ ад голаду. Ад пакаленняў увык да чужой, але ласкава працягнутай яму рукі з кавалкам хлеба, усё роўна бы той конь да торбы з абракам. Такога, глыбока засеўшага ў душу, навыку не пазбываюцца з ночы на дзень.

Уцалеюць два тыпы гаспадарак: вялікія і павязаныя з бізнесам у Рэспубліцы Беларусь, у якой ненаедны рынак, і агародніцкія ў гайнаўска-бельска-беластоцкіх прыгарадах. Рэшта ляснe; для Польшчы наш хлеб можа і зусім не быць.

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

# НАРЫС АБ ЖЫЦЦІ СВ. МУЧАНІКА ГАЎРЫІЛА

Святы Мучанік Гаўрыіл нарадзіўся ў 1684 годзе ў вёсцы Зверкі ў сялянскай сям'і Пятра і Анастасіі Гоўдзеляў. Ахрышчаны быў у тагачасным Свята-Успенскім манастыры ў Заблудаве. Шасцігадовым хлапчуком быў ён выкрадзены праўдападобна мясцовым арандатарам Шутко і перавезены ў Беласток. Тут, пасля доўгіх мукаў, закончыў ён сваё кароткае зямное жыццё пакутніцкай смерцю. Яго цела злачынцы перавезлі ў ваколіцу Зверак і пакінулі ў лесе. З Божай волі цела мучаніка асталося някранутым, а драпежных птушак адганялі сабакі, якія сцераглі пакінутае цела. Неўзабаве цела было знойдзена і пахавана каля могільнікавай царквы ў Зверках. У пачатку XVIII стагоддзя насельніцтва абшараў сённяшняй Беласточчыны пацярпела ад эпідэміі, якая не ашчаджала і дзяцей. Памерлых дзетак са Зверак хавалі побач магілы Мучаніка Гаўрыіла. У гэты спосаб вернікі пакланяліся Ягонай мучаніцкай смерці. Падчас аднаго з пахаванняў выпадкова была парушана магіла і адкрыта труна Гаўрыіла. На вялікае здзіўленне людзі пабачылі нятленнае цела, хаця даўно яно ляжала ў зямлі. Было гэта прызнакам святасці. Цела Мучаніка Гаўрыіла перанеслі тады ў склеп царквы ў Зверках, а пасля яе пажару ў 1746 годзе мошчы былі перанесены ў Заблудаўскі манастыр. Доўгія гады мошчы захоўваліся ў Заблудаве, але ў выніку варожых адносін да іх часткі неправаслаўнага насельніцтва, былі яны перанесены ў Слуцк.

Вяртанне мошчаў 21 верасня г.г. з Барысаглебскага манастыра ў Гародні (толькі на гэтую ўрачыстасць праваслаўным дазволена пакарыстацца гэтым манастыром!) на Беласточчыну не будзе першым вяртаннем. У 1910 годзе епіскап Уладзімір перавёз мошчы са Слуцка ў Беласток. Аб гэтым здарэнні расказвала мне некалькі гадоў таму пакойная Анастасія Аксюцік, жыхарка вёскі Тапаляны, якая памерла ў 1988 г. на 97 годзе жыцця. Апавядала яна, што мошчы былі пераношаны вельмі ўрачыста і віталі іх жыхары вёсак і гарадоў. Вясковыя дарогі, па якіх неслі мошчы, высціляліся ўласнаручна тканымі дарожкамі і дыванамі.

У 1910 годзе мошчы коратка пабылі ў Саборы св. Мікалая ў Беластоку і зараз перанеслі іх у Супрасльскую лаўру, дзе захоўваліся да 1915 года. У час бежанства епіскап Уладзімір, які эвакуіраваўся ў Маскву, узяў мошчы з сабою і пакінуў іх у Слуцку. Пасля ліквідацыі Святатроіцкага манастыра мошчы трапілі ў музей у Менску, а потым у мясцовую Праабражэнскую царкву. У 1944 годзе мошчы апынуліся ў Пакроўскай царкве ў Гродне, дзе захоўваліся да нашых дзён.

Нашыя продкі сваю пашану святому Мучаніку Гаўрыілу аказвалі, між іншым, высцілаючы вясковыя дарогі.



Нашая пашана выявіцца мнагалюдным удзелам вернікаў ва ўрачыстасці перанясення мошчаў. Памятайма, што асабліва ў той час мы павінны маліцца Госпаду і св. Гаўрыілу за нашых дзяцей і моладзь, якіх ён з'яўляецца заступнікам. Няхай растуць яны на пацеху бацькам і на славу нашай Царкве.

*Святый мучениче младенче Гавриилe,*
*моли Бога о нас.*

С.Н.

# ПРАГРАМНЫ МІНІМУМ

**навучання праваслаўнай рэлігіі ў пачатковых школах**

**Змешчаны ніжэй план навучання праваслаўнай рэлігіі ў пачатковых школах і абгрунтаванне такой яго версіі прапануе доктар Аляксандр Малеша. У „Ніве" друкуем скарочаны варыянт плана (скарачэнні зроблены рэдакцыяй). Поўны тэкст праграмы надрукаваны будзе ў адным з найбліжэйшых нумароў штомесячніка „Церковный Вестник". Аўтар праграмы спадзяецца, што яго прапанова будзе падставай для дыскусіі сярод настаўнікаў закону Божага.**

* * *

Прапанаваная аўтарская праграма не створана настаўнікам-катэхетам. Аўтар праграмы з'яўляецца шматгадовым настаўнікам і са сваіх назіранняў ведае, з якімі праблемамі сустракаюцца вучні на ўроках рэлігіі. У сваёй праграме прапаную, каб не трацячы нічога з багацця праваслаўнага катэхізісу, у большай ступені ўключыць яго ў нурт працы школы. (...)

Прадстаўлены праграмны мінімум не прэтэндуе на дасканаласць. Мяркую аднак, што можа ён быць падставай для складання настаўнікамі-катэхетамі сваіх праграмаў навучання, патрэбных не толькі сабе, але і катэхетычным групам. Міністэрства нацыянальнай адукацыі забавязвае ўсіх настаўнікаў ствараць такія праграмы. Здаецца мне, што асабліва важнай справай з'яўляецца складанне праграмаў, а потым раскладаў матэрыялаў патрэбных спалучаным класам. Дзеля гэтага патрэбна шырокая дыскусія. Калі мае прапановы выклікаюць дыскусію, буду лічыць, што я выканаў сваю задачу.

**Аляксандр Малеша**

### АСНОЎНЫЯ ТЭЗІСЫ

(у скарачэнні)

**У I класе** прапануецца пазнаёміць дзетак з тым, як Бог стварыў свет і чалавека, саслаў на зямлю свайго Сына і Духа Святога. Далей прадбачваецца навучыць хрысціцца і асноўных малітваў, выясніць, чым з'яўляецца ікона і малітва ў жыцці чалавека і як трэба весці сябе ў царкве.

**У II класе:** істота царкоўных святаў і мясцовых культаў, навучэнне адпаведных малітваў з нагоды кожнага свята.

**III клас:** прапануецца пазнаёміць з галоўнымі праблемамі хрысціянскай навукі, адказаць на пытанне, чаму Ісус Хрыстос з'явіўся на зямлі, прадставіць яго жыццё, сэнс смерці і ўваскрашэння.

**У IV класе** добра было б, каб вучні даведаліся,чым ёсць царква,чаму ў яе такая архітэктура, чаму святары падчас літургіі маюць такое, а не іншае, аблачэнне. Далей прапануецца растлумачыць парадак літургіі, істоту паломніцтваў і манаства.

**Ад V класа** можна пачаць знаёміць вучняў са зместам Старога Запавету, а **ў VI** — Новага Запавету.

**У VII класе:** Святыя Таінствы; крыніцы веры і яе сімвалы.

**У VIII класе** перш за ўсё звяртаецца ўвага на хрысціянскую этыку і маральнасць, якія выцякаюць з царкоўнай навукі. Заняткі канчаюцца ўсведамленнем розніц паміж праваслаўем і іншымі хрысціянскімі веравызнаннямі.

# НАШЫ КАРАНІ

### XLIII. АДВАЯВАНЫЯ ПРАВЫ

У 1430 г. памёр князь Вітаўт, не пакінуўшы пасля сябе мужчынскага наследніка, і на вялікакняскі пасад у Вільні ўзышоў князь Леў-Свідрыгайла, родны брат караля Уладзіслава Ягайлы. Праваслаўнае насельніцтва ўздыхнула з палёгкай, бо князь Свідрыгайла быў прыхільнікам Праваслаўнае Царквы і яе веруючых ды „русі і маскве больш зычыў і ўрады ім раздаваў", — як зласліва заўважыў ананімны аўтар „Хронікі літоўскай і жамайцкай". Імкнуўся ён да поўнай незалежнасці Беларускай дзяржавы (Вялікага княства Літоўскага) ад Каралеўства Польскага, вярнуў частку захопленых палякамі зямель, дамагаўся занятай імі Падоліі. Гэта не магло падабацца ні прывілеяваным пры Вітаўце каталіцкім духавенству і дваранству, ні польскім панам-магнатам. Яны змовіліся, учынілі замах на Свідрыгайлу і ў Вільні паставілі князем Вітаўтавага брата, католіка Зыгмунта. Большасць праваслаўнага насельніцтва Беларусі і Украіны не прызнала Зыгмунта, засталася вернай Свідрыгайлу, дзяржава падзялілася паводле веравызнання на каталіцкую і праваслаўную. Пачалася жорсткая і крывапралітная вайна. З дапамогай праваслаўным на чале з Свідрыгайлам прыйшоў праваслаўны вялікі князь цвярскі Барыс Аляксандравіч з братам Яраславам, католікам жа пад кіраўніцтвам вялікага князя Зыгмунта і ягонага сына Міхала заспяшаліся дапамагаць палякі з каралём Ягайлам. Барацьба ішла з пераменным шчасцем: перамагаў то адзін, то другі бок, але была страшэнна зацятая — гарэлі цэрквы і касцёлы, гінула духавенства, працаўнікі не ашчаджалі ні старога, ні малога. Праваслаўныя змагаліся за свае чалавечыя правы, за роўнапраўе з католікамі і ўсведамлялі, што калі прайграюць, дык стануць вечнымі нявольнікамі, а вера іх будзе апаганена.

Нягледзячы на ваеннае становішча ў краіне пачаўся агульны зрух і ажыўленне праваслаўнага духовага жыцця. Здавальняючы патрабаванні Праваслаўнае Царквы князь Свідрыгайла накіраваў у Канстанцінопаль смаленскага епіскапа Герасіма для пастаўлення яго ў мітрапаліта. Патрыярх прыхіліўся да просьбы князя і паблагаславіў епіскапа Герасіма ў 1433 годзе. Вярнуўшыся з Канстанцінопаля, мітрапаліт з прычыны грамадзянскай вайны па-ранейшаму жыў у Смаленску і адтуль кіраваў усёй мітраполіяй. Моц Свідрыгайлы, дзякуючы растучай сіле яго праваслаўных прыхільнікаў, павялічвалася з кожным месяцам.

Занепакоены аслабленнем свайго лагера, каб прыхіліць да сябе праваслаўных баяраў, Зыгмунт надаў ім шэраг правоў і прывілеяў, у нейкай ступені ўраўноўваючы іх з каталіцкай шляхтай. „Мы, Зыгмунт Божае ласкі вялікі князь літоўскі, нароўні пан і спадкаемца земляў рускіх, гэтым абвяшчаем, каму належыцца ўсім сучасным і патомству..., што жадаючы землі нашы Літву і Русь да лепшага стану давесці..., каб паміж людзьмі гэтых земляў не паўстала братняя варожасць..., каб усе былі забяспечаны роўнымі ласкамі... і да захавання штораз шчаслівейшага дабрабыту скіроўвалі супольнае імкненне і высілкі" — такое чытаем у Зыгмунтавай прывілеі ад 6 мая 1434 г. І гэтым актам Зыгмунту ўдалося разбіць адзінства ў Свідрыгайлавым лагеры. Паспрыялі таму таксама паводзіны Свідрыгайлы. Праваслаўным вельмі не падабалася тое, што ён узнавіў сваё сяброўства з крыжакамі і атрымліваў ад іх значную вайсковую дапамогу. Да таго прымусіў мітрапаліта Герасіма прыняць унію з Рымам, каб такім чынам атрымаць дапамогу з Апостальскай сталіцы. Папа ў адмысловым лісце падзякаваў Свідрыгайлу за старанні ў справе „уніі рускага народа", але ніякай падтрымкі яму не даў.

Усё гэта спачатку астудзіла, а потым і цалкам адпіхнула праваслаўных ад Свідрыгайлы. Ад яго пачало адыходзіць і далучацца да Зыгмунта штораз болей праваслаўных баяраў і князёў. Свідрыгайла жорстка распраўляўся з перабежчыкамі, але іх з кожным днём прыбывала. Калі ў 1435 г. пад Вількамірам дайшло да вырашальнай бітвы паміж войскамі Свідрыгайлы і Зыгмунта, Свідрыгайлавы воі не праявілі неабходнага запалу і ахвярнасці і ў выніку перамагла Зыгмунтава армія. І хоць пасля таго пабоішча яшчэ некаторы час Полацк і Віцебск абараняліся ад пацыфікацыі краю, якой кіраваў князь Міхаіл Зыгмунтавіч, але „палачане і віцьбляне, не чуючы сабе дапамогі ад нікога, здаліся вялікаму князю Зыгмунту",— падае „Хроніка Быхаўца". Свідрыгайла абвінавачваў у здрадзе ўсё сваё акружэнне. Падазрэнне ўпала і на мітрапаліта Герасіма, што ён быццам бы, увайшоў у нейкую лучнасць з Зыгмунтам і абяцаў таму дапамагчы захапіць Смаленск. Свідрыгайла загадаў арыштаваць уладыку і жыўцом спаліць на кастры. Гэтая нечуваная на беларускіх землях жорсткасць канчаткова адхіліла ад Свідрыгайлы людзей і то розных веравызнанняў.

У выніку Свідрыгайла прайграў змаганне за вялікакняскі пасад і мусіў задаволіцца жыццём малазначнага ўдзельнага князька недзе на Пакуцці, на паграніччы з Венгрыяй.

Такім чынам праваслаўнае насельніцтва Беларусі і Украіны паказала князям Зыгмунту і Свідрыгайлу сваю моц і значэнне ў дзяржаве і прымусіла іх і іхніх наследнікаў з большай увагай і дбайнасцю адносіцца да яго запатрабаванняў. Гэтак праваслаўныя хоць на некаторы час адваявалі амаль што роўныя правы з католікамі і адначасова дамагліся стаўлення з належнай пашанай да Праваслаўнай Царквы.

На жаль, гэта значыла ўсяго толькі тое, што вялікакняская і каралеўская ўлады на працягу некалькіх наступных дзесяцігоддзяў талеравалі Праваслаўе, але ўсяроўна лічылі яго чужым веравызнаннем і шукалі розных спосабаў, каб навярнуць праваслаўных у каталіцызм, у тым ліку і праз унію.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# ПАЧАТАК НАВУКІ Ў „ТРОЙЦЫ”

Навучальны год у бельскай „тройцы” пачынаецца, звычайна, урачыстасцю на гарадскім скверыку, які побач са школай. Так было сёлета.

Вучняў і бацькоў па-беларуску прывітаў дырэктар Васіль Ляшчынскі. Асабліва горача вітаў ён першакласнікаў, якія былі галоўнымі героямі ўсяе цырымоніі. Яны ўпершыню атрымалі знак школы — „тарчы” — і склалі абяцанне быць пільнымі і паслухмянымі вучнямі.

Нягледзячы на цяжкую матэрыяльную абстаноўку і „парады” беластоцкай Куратарыі абмежаваць набор дзяцей (пра гэта мы багата і даволі падрабязна ў „Ніве” пісалі), школа разрастаецца. У гэтым годзе створана 5 паралельных першых класаў, у якіх 127 вучняў. Усе яны ад другога класа, таксама як іхнія старэйшыя сябры, будуць вывучаць беларускую мову.

Школа за канікулы перайшла неабходныя рамонты. Каштавалі яны каля 50 мільёнаў — фінансаваў іх Бацькоўскі камітэт. Для дыдактычнай працы падрыхтаваных было 17 памяшканняў. Вучыцца ў іх будзе 1080 дзяцей (у мінулым годзе — 1050), падзеленых на 36 аддзелаў. З вучнямі працуе 71 настаўнікаў, у тым ліку 5 настаўнікаў Божага закону. Сёлета ў кожным класе ўрокі рэлігіі — праваслаўнай і каталіцкай - будуць весціся два разы ў тыдзень.

Дырэктар Ляшчынскі баіцца, каб некаторых бацькоў не палохала тое, што іх дзецям давядзецца вучыцца і да палове восьмай вечара. Але, здаецца, той, хто пасылае сваё дзіця ў „тройку”, пагаджаецца з двума варункамі: з цяжкімі ўмовамі ў школе і з безагаворачным навучаннем беларускай мовы.


*Вучні і бацькі стаялі пад дрэвамі.*

Пачатковая школа н-р 3 у Бельску, гэта не толькі найбольшая школа ў Польшчы, у якой навучаецца беларуская мова, гэта таксама школа, дзе ўсё больш выразна адчуваецца беларускі дух. Я не ведаю, ці яшчэ дзе-небудзь школьны год пачаўся не толькі пад бела-чырвонымі, але і пад бел-чырвонабелымі сцягамі.

**М.В.**
**Фота Аліны Ваўранюк**





*Прэзідыум.*

# БОЛЬШ БАЧЫЛІ ТЭЛЕГЛЕДАЧЫ

**Размова з ЯЎГЕНАМ БЭДЭНІЧУКАМ — лёгкаатлетам, удзельнікам Алімпіяды ў Барселоне ў трайным скачку.**

*— Перад выездам у Барселону беластоцкая прэса многа пра Вас пісала. Пасля вяртання, як быццам згубіла зацікаўленне да Вашай асобы.*

— Пэўна журналісты прытрымліваюцца такога прынцыпу, што калі няма медаля, няма поспеху, дык няма і пра што пісаць. Для мяне асабіста ўжо сам удзел у фінале з'яўляецца не абы-якім дасягненнем. Трэба ўлічыць тое, што не быў я ў нацыянальнай дружыне, рыхтаваўся пераважна ў Бельску. За свой кошт паехаў у Тарту ў Эстонію і раз быў у Венгрыі. Магло б быць, зразумела, лепш, але што зробіш.

*— Якія варункі былі на барселонскім стадыёне, бо ў тэлебачанні каментатары крыху наракалі.*

— Стадыён у Барселоне ў парадку, умовы на ім добрыя. Горшыя, а нават дрэнныя былі ў алімпійскай вёсцы. Перш за ўсё за скуру залезла тое, што не было кліматызацыі. Калі на дворы 40 градусаў і столькі ж у пакоі, дык занадта не адпачнеш, тым больш не набярэшся сілы.

*— Як выглядалі вашы кватэры?*

— У нашым доміку было чатыры пакоі. Я жыў у адным пакоі з Раманам Галяноўскім (скачок у даўжыню) і Артурам Партыкам (скачок у вышыню), які, дарэчы, стаў бронзавым медалістам.

*— Доўга Вы былі ў Барселоне?*

— Да самага заканчэння гульняў, да 11 жніўня. Прыляцеў туды з Францыі 28 ліпеня. Але можа ад пачатку. 6 чэрвеня на „мітынгу” ў Любліне скочыў я 17,08 м., а алімпійскі мінімум быў 17,05 м. Тады мяне закваліфікавалі на алімпійскія гульні і стаў я разам ездзіць са зборнай Польшчы. Ад 26 чэрвеня да 12 ліпеня быў я ў Спале, потым, на коратка, паехаў дахаты развітацца з сям'ёю, а 17 ліпеня паляцелі мы ў Францыю ў мясцовасць Экс-ле-Бен і адтуль ужо ў Барселону.

*— Мне цікава, ці было ў Вас у Барселоне многа свабоднага часу?*

— Пасля старту так. Час поўнасцю быў у тваім распараджэнні. Але раней, калі ты хацеў дабіцца нейкага прыстойнага рэзультату, трэба было накінуць сабе дысцыпліну. Я — перш-наперш, засярodзіўся на спартыўным спаборніцтве, на стартах. Вельмі добра адчуваў сябе ў элімінацыях. Пасля адну ноч не спаў ад эмоцый. На другую паставіў я свой ложак між акном і дзвярыма, у скразняку. Там мяне прадзьмула і гэта ў вялікай ступені паўплывала на мой рэзультат у фінале.

*— Што Вам найбольш запала ў памяць на Алімпіядзе?*

— Мушу прызнацца, што больш пра яе чуў я пасля вяртання дахаты, ад тых, якія ўсё бачылі ў тэлевізары. У мяне там не было ні часу, ні фізічнай магчымасці, каб паехаць усюды, куды хацелася б. Алімпіяда гэта такое гіганцкае свята, якое цалкам паглынае чалавека. Я мог назіраць толькі тое, што адбывалася на лёгкаатлетычным стадыёне, побач са мною. Пра тое, што рабілася ў іншых месцах, не ведаў амаль нічога. Маёй марай было ўбачыць баскетбольны матч з удзелам амерыканскай каманды. Але білеты на „Dream Team” былі прададзены ўжо даўно перад Алімпіядай.

*— Скажыце, як Вы пачалі займацца спортам. Не часта здараецца, каб ураджэнец такой вёсачкі як Ляхі трапіў на Алімпіяду. Паколькі мне вядома, школа ў Гародчыне не магла даць Вам адпаведнай падрыхтоўкі.*

— Ні школа ў Гародчыне, ні ў Кленіках, дзе я праўчыўся два апошнія гады „падставоўкі”, спортам не цікавіліся. Толькі калі пайшоў я ў механічную школу ў Гайнаўку, настаўнік фізічнага выхавання Юзючук запрапанаваў мне дадатковыя заняткі ў рамках СКС. З тае пары стаў я ўдзельнічаць у розных спаборніцтвах. На адным з іх, у Беластоку, заўважылі мяне настаўнікі з Лап і пастараліся, каб я прыйшоў у іх тэхнікум. Там апекаваўся мною Станіслаў Касіцкі. Потым пачаў я вучобу ў Вайсковай тэхнічнай акадэміі, але прабыў я там усяго столькі, каб адслужыць армію. Вярнуўся затым у Бельск і ў клуб „Ювэнія”, які патранаваў школам. У 1988 годзе перайшоў я ў „Ягелонію” Беласток, у гэтым клубе я і да сёння.

*— Што лічыце сваім найбольшым поспехам?*

— Безумоўна, удзел у Алімпіядзе. Гэта мара кожнага спартсмена. З іншых рэзультатаў: 11 месца ў Чэмпіянаце Еўропы ў 1990 годзе ў Спліце, 14 месца ў Чэмпіянаце свету ў Токіо ў мінулым годзе, першае месца ў спаборніцтве на Кубак Еўропы групы „Б” ў Барселоне ў мінулым годзе. Выйграў я ўжо з усімі польскімі трайнымі скакунамі, у тым і чэмпіёнам свету Гофманам, і з Пастусінскім. У мінулым годзе заняў я другое месца ў Чэмпіянаце Польшчы пад дахам і на адкрытым стадыёне, у гэтым стаў я чэмпіёнам там і там. Два гады таму абралі мяне спартсменам Бела-

# МАЦІ І СЫН

Месяцы два таму Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа" ў Беластоку выдала кніжыцу */, у якой пад адной вокладкай знайшліся неапублікаваныя дагэтуль вершы Ларысы Геніюш і паэтычная проза ейнага сына Юркі Геніюша. „Частку маці" падрыхтавала паэтэса з Гарадні Данута Бічэль, а „частку сына" — Сакрат Яновіч.

Паэзіі Ларысы Геніюш, як і самой паэтэсе, выпаў нялёгкі жыццёвы шлях. У 1942 годзе ў Празе выйшаў ейны зборнік „Ад родных ніў". У 1948 годзе Ларыса Геніюш з сям'ёй была дэпартаваная з Чэхаславаччыны ў СССР. Там яна і муж атрымалі прысуд да 25 гадоў сталінскіх канцэнтрацыйных лагераў. Іхні сын Юрка, дзякуючы сваякам маці, апынуўся ў Польшчы. Пасля смерці Сталіна Геніюшы, Ларсыа і Іван, вярнуліся з лагераў на Беларусь і да канца сваіх дзён пражывалі ў Зэльве пад строгім наглядам агентаў КДБ. Ларыса Геніюш памерла ў 1983 годзе. Пры яе жыцці на Беларусі выйшаў адзін зборнік — „Невадам з Нёмана" ў 1964 годзе, укладзены Уладзімірам Караткевічам. Ужо ў наш час была апублікаваная „Споведзь" (1990, „Маладосць") і зборнік „Белы сон" (1990). Сёлета бібліятэка імя Ф. Скарыны ў Лондане выдала падборку неапублікаваных вершаў з 1945—47 г.г. А „Белавежа", працягваючы публікацыю спадчыны Л. Геніюш, выдала вершы, якія трапілі на захаванне спадарыні Дануце ў Горадні.

*... Ларыса Геніюш і яе хата, як сонейка, прыцягвалі ўсё жывое на Беларусі — пісьменнікаў, мастакоў, навукоўцаў, сялянак. Можа, мы й не памерлі ў 60—80-я гады, таму што на злосць „жлобскай нацыі" здраднікаў і самаліквідатараў стаяла ў Зэльве ўся ў кветках вясновая хата й пісала вершы паэтка. І ўсе бітыя, пакрыўджаныя, параненыя знаходзілі той ганак удзень і ўночы, стукалі ў сенцы, не зажаючы на суседку, якая бяссонна стаяла на варце ў суседніх дзьвярох. Іх там кармілі, адпойвалі, суцяшалі словам. На дні нарадзінаў зьбіраліся, бадай, усе хто гаварыў па-беларуску — і стукачы „беларускамоўныя" таксама. А ў гародчыку за хатай вырастала й хапала на ўсіх, на ўсю тагачасную Беларусь — памідораў, гуркоў, яблыкаў, ягадаў і кветак. З пустымі рукамі й душамі адтуль ня ехаў ніхто.*

*І вершы ехалі. А чаго іх было трымаць дома? Не для савецкага ж друку яны ствараліся... (З прадмовы Дануты Бічэль да „белавежскага" зборніка).*

Ларыса Геніюш, хоць яе й прасілі, не запісалася ў Саюз пісьменнікаў БССР. Што больш, да канца свайго жыцця яна не прыняла савецкага грамадзянства.

Паэзія ейная, як і сама аўтарка, — бескампрамісная й чыстая. У гэтым аспекце — яна ўнікальная ва ўсёй беларускай падсавецкай літаратуры. Мабыць, таму, што была пісаная без спадзявання на публікацыю ў бээсэсэраўскім друку. Дзеля паэзіі.

*Ты — пан зямлі, я — пан свайго*
*сумленьня,*
*і нада мною ты неваладар.*
*То за табою крыўда пойдзе ценем*
*і будзе мсьціць разбураны алтар.*
*Дык ты дрыжы паміж здаўнелых*
*страхаў,*
*каб змыць віну, шукай у сэрцы слоў.*
*А я пайду. А нехта ціха скажа*
*— Вунь чалавек дарогаю пайшоў.*
*1964*

Сын Ларысы, Юрка, апынуўшыся ў Польшчы, закончыў Медыцынскую акадэмію ў Беластоку, працаваў дзіцячым доктарам. Дэбютаваў і працягваў публікавацца, як амаль усе „белавежцы", на старонках „Нівы". Памёр у 1985 г.

У 1976 годзе ГП БГКТ апублікавала „Зборнік сцэнічных твораў" С. Яновіча і Ю. Геніюша, у якім знайшліся дзве п'эскі Юркі Геніюша. Другая кніжная публікацыя Ю. Геніюша — сёлетняя „белавежская" кніжыца „Маці і сын".

**ЯН МАКСІМЮК**

--------------------

*/ Маці і сын, *Беласток 1992, Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання "Белавежа" пад рэдакцыяй Яна Чыквіна, Кніжка сёмая.*

# КОНРАД АДЭНАЎЭР — НЕМЕЦ І ЕЎРАПЕЕЦ

Пад гэткім назовам 5 верасня ў Дзяржаўнай галерэі мастацтва „Арсенал" у Беластоку была адчынена выстаўка, арганізаваная Фондам К. Адэнаўэра. Раней, выстаўка пабывала ў Варшаве, Гданьску, Кракаве, Познані і Аполі. У Беластоку на адкрыцці выстаўкі прысутнічалі Пауль Вінк — наменнік дырэктара Фонду К. Адэнаўэра і віцэ-прэм'ер Польшчы Павел Ланчкоўскі.

Мэтай выстаўкі, паводле Варшаўскага філіяла фонду К. Адэнаўэра, *з'яўляецца ўганараванне палітыка, які ў значнай ступені прычыніўся да ўзнікнення дэмакратычнай Нямеччыны і аб'яднанай Еўропы. Будучы першым канцлерам нямецкай фэдэратыўнай рэспублікі (1949-1963) Адэнаўэр вырашыў аб кшталце федэральнай Нямеччыны і аб паяднанні з „адвечным ворагам" — Францыяй. Кіруючыся хрысціянскім вобразам чалавека, ён не мог заняць „нейтральнае" становішча ў адносінах да камунізму. Сёння мы ведаем, што становішча такое прыспешыла ўпадак камунізму і прычынілася да перамогі дэмакратыі ў Еўропе. У камуністычнай Польшчы аднак жа такое непахіснае становішча ў дачыненні да камунізму дало яму славу „рэваншыста", „рэвізіяніста" і „крыжака". Істотнай мэтай выстаўкі з'яўляецца карэктура гэтага вобразу і прадстаўленне „сапраўднага" Адэнаўэра.*

Выстаўка ў Беластоку будзе адчынена да канца верасня. На ёй паказаны багаты набор фатаграфій, якія прадстаўляюць жыццёвы і палітычны шлях Конрада Адэнаўэра, а таксама такія цікавінкі, як партрэт аўтарства Оскара Какошкі ці эскіз Сальватора Далі.

Сам Фонд К. Адэнаўэра, заснаваны ў 1964 г., вядзе актыўную дзейнасць у напрамку палітычнай адукацыі, доследаў гісторыі палітычнага руху (асабліва хрысціянска-дэмакратычнага) і доследаў у галіне мясцовага самакіравання. Пры Фондзе існуе таксама Інстытут падтрымкі здольнай моладзі, які прызнае шмат стыпендыяў дзеля адукацыі і самавыяўлення адораных маладых людзей у Еўропе.

**(Я.М)**

# КРАКАЎСКАЯ ПРАПАНОВА

У антыкварыяце „Rara Avis" (31—024 Kraków, ul. Szpitalna 7/4) можна купіць, між іншым, такія вось кніжкі (у заказах трэба спасладца на „Katalog Nr 3" са жніўня г.г.):

Poz. 57 — Gloger Z., Albumy etnograficzne..., Warszawa 1904. Cena 900 tys. zł.

Poz. 65 — Grottger A., Cykle: Warszawa, Polonia, Lituania, Wojna, Lwów brw. Cena 400 tys. zł.

Poz. 83 — Klaczko J., Anneksya w dawnej Polsce (unia Polski z Litwą), Kraków 1901. Cena 60 tys. zł.

Poz. 100 — Mole W., Ikona ruska, Warszawa 1956. Cena 30 tys. zł.

Poz. 142 — Rzewuski H., Pamiątki starego szlachcica litewskiego, Warszawa 1884. Cena 100 tys. zł.

Poz. 149 — Staniewicz W., Matujzy Bolondziszki, wieś powiatu lidzkiego.(Studjum społeczne i gospodarcze), Wilno 1923. Cena 60 tys. zł.

**ПЁТР БАЙКО**

сточчыны.

*— А колькі Вы зарабілі на Алімпіядзе, калі не сакрэт?*

— Не, не сакрэт. Польскі алімпійскі камітэт даў нам па 400 долараў на дробныя расходы. І гэта ўсё. Калі б я апынуўся ў першай пяцёрцы, атрымаў бы ўзнагароду ад фірмы „Reebok" — у яе ботах выступаў я ў Барселоне. Апрача таго, добрае месца ў Алімпійскіх гульнях гэта запрашэнне на платныя „мітынгі", дзе ўжо сумы бываюць сапраўды высокія. Кожны спартсмен мог шукаць таксама свайго спонсара тут, у Польшчы.

*— У Вас не было такога спонсара?*

— Калі я закваліфікаваўся на Алімпіяду, 17 мільёнаў на мой выезд назбіралі: Гарадская і Гмінная ўправы ў Бельску ды бельскія аддзелы ПКС і ПЗУ. Але я гэтых грошай яшчэ не бачыў, яны на рахунку клуба.

*— Спорт у Вашым выпадку больш хобі, чымсьці прафесія. З чаго вы жывяце?*

— Я ўжо шосты год працую настаўнікам у Комплексе эканамічных школ у Бельску. Раней год працаваў у Пачатковай школе ў Рыбалах і два ў Кнарыдах. Жыву ў часовай кватэры ў Доме настаўніка ў Бельску і думаю, адкуль узяць 200 мільёнаў на парадачную кватэру.




*Яўген Бэдэнічук з дачушкамі Паўлінкай і Магдаленкай на стадыёне „Ягелоніі" ў Беластоку. Здымак зроблены 28 жніўня г. г.*

*— Клуб не дапамагае?*

— З клуба не атрымаў я нават ніякай падзякі за ўдзел у Алімпіядзе, што тут гаварыць пра грошы. У „Ягелоніі" даценьваюць толькі футбалістаў.

*— Якія, дарэчы, вялікіх поспехаў да гэтай пары не дабіліся. Скажыце, калі ласка, многа часу прысвячаеце Вы трэніроўкам?*

— У Бельску дзве гадзіны ўдзень. Пры чым, раз працую над сілай, другі раз — над вынослівасцю, яшчэ іншы — над хуткасцю.

*— Хто вас рыхтуе да спаборніцтваў?*

— Ніхто, я сам сабе трэнер. Фармальна запісаны я ў групу трэнера Генрыка Альшэўскага ў „ Ягелоніі". Калі ёсць нейкі поспех, дыкславаю дзялюся з ім, калі я ў патрэбе — мушу сам сабе даваць рады.

*— Вы ўжо ў даволі спелым узросце як для спартсмена. Ці яшчэ намерваецеся стартаваць у вялікіх імрэзах? Якія Вашы планы на будучыню?*

— Сапраўды, я ўжо не самы малады, бо з 1961 года. Але ў маім выпадку да гэтай пары было так, што згоду ў год дасягаў я штораз лепшых вынікаў. Сёння адчуваю сябе вельмі добра і хацеў бы яшчэ выступіць у Чэмпіянаце свету ў Штутгарце ў будучым годзе. Усе 12 фіналістаў барселонскае Алімпіяды туды ўжо закваліфікаваны. Трэба будзе мець толькі прыстойны вынік, а такім Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі лічыць скачок на 16,85 метра. Чэмпіянат свету мае меншы ранг, чымсьці Алімпіяда, але ўсё ж такі, стаць чэмпіёнам, гэта таксама прывабна. Мне хацелася б паправіць свой рэзультат з Токіо і прынамсі трапіць у першую дзесятку.

*— Жадаю Вам гэтага. Дзякую за размову.*

**Гутарыў МІКАЛАЙ ВАЎРАНЮК**



## БЕЛАРУСАЎ ПЫТАЛІ, ЦІ ЯНЫ ЯШЧЭ БЕЛАРУСЫ

У чэрвені 1992 г. беларуская інфармацыйная фірма „Грамадская думка" правяла апытанне 325 беларусаў грамадзян Польшчы. Адказы на анкету, выглядаюць для нас вельмі аптымістычна і, калі б так было ў сапраўднасці, беларусам Беласточчыны не пагражала б ніякая асіміляцыя.

Паводле адказаў на гэтую анкету аж 59,3% беларусаў так-сяк ведае гісторыю свайго народа, а 11,2% — вельмі добра. Беларускую мову лічаць сваёй роднай 86,9% рэспандэнтаў (толькі чаму яе нідзе не чуваць). 34,7% дзяцей вывучае беларускую мову (30% — здаецца — зашмат). 56,6% апытаных лічаць, што замала на Беласточчыне беларускіх школ і культурна-адукацыйных установ, але толькі 27% мяркуе, што ў будучыні захаваецца беларуская свядомасць на Беласточчыне. 61,4% лічаць што яна знікне.

80,8% беларусаў, якія жывуць у Польшчы, пазітыўна адносяцца да факту абвяшчэння незалежнасці Рэспублікай Беларусь. Сярод яе палітыкаў найбольш прыхільнікаў на Беласточчыне мае Пётр Краўчанка — 56,7%, пасля Зянон Пазняк — 21,6% і Станіслаў Шушкевіч — 8,3%.

Пётр Краўчанка паводле рэспандэнтаў аказвае найбольшую дапамогу беларусам Беласточчыны (40,4%). За ім найбольш надзейным палітыкам аказаўся мала каму вядомы Мікалай Васілёнак — 17,5% (намеснік старшыні Таварыства „Радзіма").

Было б вельмі прыемна, каб нашае грамадства выглядала ў сапраўднасці так, як гэта вынікае з анкеты, зробленай „Грамадскай думкай".

М.

## АДЗІНАЦЦАЦЬ СПРАВЯДЛІВЫХ

*Працяг са стар. 1*

пакрыўдзіла немцаў. Нараджаліся шалёныя планы знішчэння расаў і народаў. Яўрэяў прадбачвалася ліквідаваць у першую чаргу. Гэтая незразумелая з ніякага пункту гледжання тэорыя, а за ёю і практыка, пазбавілі жыцця 2,5 мільёна яўрэяў — грамадзян II Рэчыпаспалітай. У канцлагеры на тэрыторыі Польшчы прывезены былі наступныя мільёны яўрэяў з акупаванай немцамі Еўропы.

Ад некалькіх гадоў у сродках масавай інфармацыі на Захадзе не спыняецца дыскусія аб тым, наколькі абыякавасць еўрапейскіх грамадстваў да генацыду спрыяла павелічэнню колькасці ахвяр нацысцкага тэрору. Нямецкая палітыка спрыяла бяскарнай актыўнасці мясцовых шавіністаў, а таксама ўсялякіх амаральных індывідыуумаў і дэгенератаў, якія за грошы або дзеля кар'еры, прадавалі сваіх суседзяў, знаёмых і незнаёмых. Агромная большасць грамадства, свядомая пагрозы з боку нацыстаў, пасіўна прыглядалася трагедыі яўрэяў. Нават тыя, якія са спачуваннем адносіліся да трагедыі нявінных людзей, не надта маглі ім дапамагчы, баючыся за жыццё сваё і сваёй сям'і. Былі аднак людзі, якія, усведамляючы, што ім пагражала, рашыліся ўкрываць яўрэяў. Іх адвага была не меншая, чым партызанаў ці іншых канспіратараў, якія мелі нейкі шанц перажыць сустрэчу з немцамі. Скрываючы яўрэйскае дзіця, даравалася яму жыццё, з поўнай свядомасцю магчымасці страты сваіх дзетак. Аб чалавечнасці кожнай асобы сведчыць тое, што можа яна ахвяраваць другому чалавеку. Тыя, што мелі ў сябе дома цёмнавокае дзіця, безупынна змагаліся са страхам. Перамагчы ў сабе пастаянны страх — гэта і была сапраўдная адвага.

Цалкам зразумела, што ўлады Ізраіля тых, якія бескарысліва дапамаглі яўрэям перажыць кашмар II сусветнай вайны, назвалі „справядлівымі сярод народаў свету". 7 верасня г.г. ізраільскі пасол у Польшчы Міран Гордан уручыў медалі „справядлівыхF жыхарам Беласточчыны. Адзначыў ён адзінаццаць чалавек — палякаў і беларусаў. Сярод „справядлівых" былі людзі з Беластока, Бельска, Рыбалаў і іншых мясцовасцей з усяе Беласточчыны. „Калі ўвогуле можна падзякаваць за дараванае камусьці жыццё, — гаварыў пасол Гордан, — то раблю гэта свядомы таго, што значыў ваш гераізм у тую эпоху, калі вы ацалялі маіх суродзічаў. Дзякуючы такім як вы, можам верыць у чалавека і мець надзею на лепшую будучыню".

ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ



## БАЛАХОВІЧ

*Працяг са стар. 4*

Гдова, дзе павесіў на вулічным ліхтары камісара Нікіціна, які раней абяцаў за балаховічаву галаву мільён рублёў узнагароды.

У траўні 1919 г. рушыла эстонска-белае наступленне на ўсход. Балаховіч зноў узяў Гдоў, чым дапамог эстонцам заняць Пскоў, у які неўзабаве пераехаў. Пасля спынення наступу, занятая белымі тэрыторыя падзялілася на два „ваяводствы": на поўдні, у Пскоўскай губерні, панаваў палкоўнік Балаховіч, на поўначы, у Ямбургскім і Гдоўскім уездах Петраградскай губерні — генерал Радзянка, якога штаб меў сядзібу ў эстонскай Нарве. Абодва атаманы не прызнавалі сябе ўзаемна, хаця тэарэтычна Балаховіч быў падначалены Радзянцы. На практыцы валодаў ён сваёй „Пскоўскай рэспублікай" як хацеў, выдаючы прыдуманыя сабой законы і вешаючы публічна на ліхтарах камуністаў, марадзёраў і гандляроў наркотыкамі. Адносіны між белымі „дарыкамі" яшчэ больш ускладніліся, калі ў г.зв. Паўночна-Заходняй арміі з'явіўся новы галоўнакамандуючы ген. Юдзеніч.

Юдзеніч і Радзянка, хаця і не любіліся ўзаемна, змовіліся ўсё-ткі супраць Балаховіча, падазраючы яго (і не беспадстаўна), што хоча ён узначаліць усе белыя войскі. Балаховіч быў ужо генерал-маёрам і пасьпяхова камандаваў корпусам, тым часам Радзянка страціў Ямбург. 23 жніўня, калі ўсе балахоўскія часці знаходзіліся на фронце, рыхтуючыся да супольнага з эстонцамі наступлення на Лугу і Ноўгарад, у Пскоў уварваўся палкоўнік Пярмікін на чале некалькіх палкоў пяхоты і кавалерыі, якія ішлі, быццам бы, на падмогу Балаховічу. Пярмікін арыштаваў штаб Балаховіча, але сам атаман спакойна пераехаў між пярмікінскімі салдатамі і падаўся да эстонцаў. Некалькі дзён пазней Пскоў паў, здадзены без бою бальшавікам. Такім чынам Юдзеніч пачаў наступленне на Петраград з адкрытымі флангамі і ўвесь ягоны паход скончыўся вядомым правалам.

Балаховіч партызаніў тым часам на сваю руку. Спрабаваў нават зрабіць узброены пераварот у Нарве, але эстонцы, прымушаныя англійскімі саюзнікамі, спынілі ягоныя дзеянні. Хутка, зрэшты, паказалася, што перайманць уладу няма над чым, бо так Паўночна-заходні ўрад, як і армія, перасталі існаваць,ператвараючыся ў масу бездапаможных бежанцаў. Пад зброяй застаўся толькі атрад Балаховіча, які наканец адпомсціў Юдзенічу, арыштуючы яго ў Рэвелі (Таліне) і дакараючы былога галоўнакамандуючага ў прысваенні грошай, прызначаных на патрэбы ліквідацыі ягонай арміі. Юдзеніч пазбег расстрэлу, выратаваны эстонцамі у выніку англійскай інтэрвенцыі, але мусіў выдаць мільёны, што прыліплі яму да рук.

2 лютага 1920 г. Эстонія падпісала мірны дагавор з Савецкай Расіяй. Вайна кончылася, але не для Булак-Балаховіча.

*(працяг будзе)*

АЛЕГ ЛАТЫШОНАК

НАШЫ ЛЮДЗІ

## РОДНАЙ СПРАВЫ ДОЧКА

Надзя Дудзік з Гарадка шырока расчыніла дзверы рэдакцыйнага пакоя і на парозе, з неадлучнай усмешкай, прачытала:

„Як жа можна тутка быць і не зайсці
да „Нівы"?!
Дай Божа, каб вы ўсе заўжды былі
шчаслівы!
Бо вы — з нашай нівы каласочкі,
Усе як адзін — роднай справы дочкі".

Калі толькі ў Беластоку, вясковая паэтка не абмінае нашу рэдакцыю. І сапраўды, нам жа з ёю па дарозе, бо і яна таксама — роднай справы дочка.

У велікодным нумары „Нівы" ад 26 красавіка 1992 года пра Надзю Дудзік быў змешчаны рэпартаж „Пішу пра тое, у што веру..." Рэпартаж фактычна канчаўся пытаннем — ці з'езду народных творцаў цяпер наогул не бывае, ці проста Надзю Дудзік перасталі запрашаць, бо піша яна па-беларуску, а не па-польску.

І вось паэтка прыйшла паведаміць нам, што была яна запрошана ізноў. З'езд народных творцаў адбыўся 11 ліпеня 1992 года ў Кнышыне. Фактычна называўся ён: Літаратурны семінар „Народныя сенакосы", а арганізатарамі яго былі Гміна-гарадскі асяродак культуры ў Кнышыне і Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку.

Сабралася шмат народных творцаў з Беласточчыны, якія чыталі свае новыя творы. Надзя Дудзік прачытала чатыры свае беларускія вершы.

А яшчэ раней яна атрымала ліст з прапановай надрукавання яе вершаў у паэтычным зборніку „Sianokosy poetyckie", які меў быць выдадзены да ўспомненага семінара. Выслала некалькі — адзін надрукавалі. Паэтка кажа нам:

„Паэтычныя сенакосы
Гэта нашыя пракосы.
І я ездзіла на той сенакос
Ёсць і мой там адзін пракос".

Зборнік „Sianokosy poetyckie", які выйшаў у выдавецтве Ваяводскага асяродка анімацыі культуры, Беласток 1992, ляжыць перад намі. А ў ім — верш Надзі Дудзік „Позняя восень", надрукаваны лацінкай.

„Пашла я да лесу, каб трошку
Развеяць сваю галаву.
Іду, прыглядаюся ціха
І ціхенька-ціха пяю.

Вядома, так сумна навокал,
Нат птушка нідзе не пяе.
І села я тут пад бярозкай,
Расказваю ёй гора свае.

Аж раптам дзесь тут недалёчка
Азваўся ўсім вядомы дзяркач
І ён мне сказаў па-свайму:
„Не плач, даражэнька, не плач!"

Паслухала я гэту птушку,
Абцерла слязу з сваіх воч,
Ну, і думаю, трэба дахаты,
А то і захопіць тут ноч.

Назбірала я многа грыбочкаў,
Маслят, сыраежак, лісіц.
Аж глянула: тут пад сасонкай
Праўдзівы грыбочак сядзіць.

Хадзі, мой праўдзівы грыбочак,
Хадзі ты у кошык, грыбок!
Вось будзе абед на Пакрову,
Тут і мяса адсунеш на бок".

Глянуўшы на Надзю Дудзік — народную паэтку, не скажаш, што ёй ужо за восемдзесят. Жывыя блакітныя вочы, рухавая постаць і дапытлівы позірк гарантуюць, што ў сваім жыцці яна напіша яшчэ не адзін верш.

АДА ЧАЧУГА

# Зорка
## старонка для дзяцей

СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ

**ВОСЕНЬ**

Лісцем закідаў ціхі парк
Дарожкі з самай раніцы,
Прысеў на плоце сонны грак
І сам з сабою раіцца...
Куды ляцець? Як уцячы
Ад мокрай злоснай восені?
Самотна гнуцца касачы
Над лужынай у бросені.
Магутны дуб пачырванеў,
Між ліп пажоўклых стоячы.
Ён затаіў, напэўна, гнеў
На золкі холад з поўначы.
Не могуць ціш і сум трываць
На плошчы перад школаю.
Бяжыць у клас хутчэй дзятва
Чародкаю вясёлаю.



## ВОСЕНЬ

"Прыйшоў Пятрок - апаў лісток; прыйшоў Ілья - апала два". Так кажуць людзі, бачачы чуць відны паварот ад лета к восені.

Луг ужо скошаны. Дзе яшчэ нядзельку таму назад калыхаліся высокія зялёныя травы, блішчалі кветкі, над каторымі з такімі вясёлымі песнямі лёталі работніцы-пчолкі, збіраючы мядок, - там цяпер пуста. Адны толькі дзябёлыя стагі, як вежы, параскідаліся па грудочках то тут, то там. Маладзенькая травіца-атава, каторая вырасла на пакошы замеж старое травы, блішчыць на сонцы, як толькі што ўзышоўшы ячмень або авёс, і сцелецца па зямлі, як павее вецер. Ёй ужо не вырасці да старое. Буслы даўно пазляталі з гнёздаў і ходзяць па лузе або кружацца высока-высока ў небе, усё роўна як радзяцца яны перад далёкай дарогай.

Жыта на полі зжата і звезена; авёс і ячмень сабраны. Толькі дзе-нідзе жаўцее чыя-небудзь палоска позняга аўса ці ячменю ды пачарнеўшыя лапінні спелай грэчкі чакаюць серпа. Картафлянік на картофлях павяў, апусціў сухое лісце; адны толькі голыя цыбуры тырчаць, як палкі. Глуха і нудна на полі. Ужо не чутно спакойнае гаворкі ціхага ветру з каласкамі збожжа. Толькі ржышча - кароткія пянёчкі жыта, аўса, ячменю і пшаніцы - гаворыць, што тут яшчэ нядаўна красаваліся пасевы. Ужо не трапечуцца ў небе над полем жаваранкі з мілымі песнямі. Прайшла вясёлая пара лета, усё адцвіло, адкрасавала. Усюды, куды ні глянь, накладае восень свой след, сваю руку. Толькі кароўкам і авечкам больш стала прастору на зжатым полі.

А глянеш на лес! Ці той гэта лес? Як адмяніўся ты, чорны, высокі, чуць-чуць засланы сінім туманам, далёкі лес! Яшчэ так нядаўна зваў і клікаў і цягнуў к сабе ты ў гарачы летні поўдзень пад свой цень, і так ахвотна хаваў ты чалавека і жывёлу ад пякучага сонца пад густою стрэхаю зялёных сваіх лістоў. Тысячы галасоў усякіх птушак, вясёлы іх шчэбет рассыпаліся ў тваім гушчары, і ціхі спакой навяваўся на душу тваёю доўгаю, густою моваю, лепетам тваіх лістоў і галін. Эх, гутарлівы лес! Люблю я цябе, люблю твой шум, халадок тваіх лістоў і твой здаровы смаляны запах. А цяпер ціха і глуха ў лесе. Птушкі перасталі спяваць, лісце пажоўкла і патроху асыпаецца на дол.

Сонца не грэе так ярка, як, бывала, улетку. Кожны дзень яно ўсё ніжэй і ніжэй ходзіць па небе. Неба часцей і часцей засцілаецца хмарамі. Невясёла пазірае яно, засланае смутнымі хмаркамі, як заараное поле. Туманы закрываюць ад вачэй свет. Дробны дожджык сеецца, як скрозь сіта. Нудна і непрытульна выглядае ўсё восень.

*1907 г.*

ЯКУБ КОЛАС

## МАЛАЯ ПРАЧЫСТАЯ, СПОЖКА, БАГАЧ
*(РАС[...]ВО БОЖАЙ МАЦІ)*

Раждзаство Божай Маці - адно з галоўных хрысціянскіх свят. Два праведнікі - муж і жонка Іякім і Ганна не мелі дзяцей і малілі Бога пасласць ім дзіця. Нібыта цуда, Бог паслаў старым бацькам дачку Марыю, якая ў будучым стала Маці Ісуса Хрыста.

Сярод беларускага народа гэта свята нярэдка мела назву "Багач", у якой нібы засведчаны канчатковы набытак селяніна з яго нівы. Святочны дзень не толькі падсумоўваў зробленае, але і настройваў на далейшыя работы: "Багач - бярыся за рагач (саху), ідзі пад авёс араць", "Прыйшоў Багач - кідай рагач, бяры сявеньку, сей памаленьку". Ад цяжкіх работ пад восень сяляне добра стамляліся, асабліва жанчыны: "Да Багача баба рабача, па Багачы - хоць за плот валачы". На Віцебшчыне ў гэты дзень жанчыны хадзілі па льнішчах і на кожным прыгаворвалі: "Няхай будзіць лён такей даўгей, сколькі мы прайшлі". У заходніх раёнах на Багача забівалі жывёліну, а гаспадара, які шкадаваў зарэзаць барана, перасцярагалі, што таго барана воўк парве. Назіралі за жывёлай, каб рабіць прагнозы з наступленнем зімы: калі пасля Малой Прачыстай жывёла імкнецца на пашу вельмі рана, то і зіма будзе ранняя. Сапраўды, прадчуваючы зазімкі, жывёла рвецца, каб у апошнія дні паболей скубянуць свежай травы. Вялікая і Малая Прачыстыя і з імі Пакроў, што адзначаўся неўзабаве, утваралі агульны цыкл багародзіцкіх свят (святкоў) і адпаведна называліся: першы святок, другі святок і трэці. З Малой Прачыстай аб'ўялялі наступную пару года: "Другі святок - восень, браток..."

УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ

## LEGO Ў БЕЛАСТОКУ



Ці ведаеце, што такое LEGO? Натуральна, хто б не ведаў! Магчыма, большасць з вас мае дома камплект каляровых цаглінак-кубікаў, з якіх можна раз-два сканструяваць самаход, адмысловую касмічную ракету або нейкі пышны палац. А ці ведаеце, калі і дзе ўпершыню пачалі прадукаваць LEGO?.. Калі не ведаеце, дык вам скажу...

Першыя, яшчэ не зусім дасканалыя, цаглінкі LEGO былі зробленыя ў Даніі, у мястэчку Білюнд, у 1949 годзе. Знаходзілася там фабрыка цацак, якой кіравала сям'я Хрыстыянсенаў - фабрыка гэтая рабіла драўляныя дзіцячыя цацкі, а пад канец саракавых гадоў, калі была вынайдзена пластмаса, пачала прадукаваць цацкі з гэтага матэрыялу. Канструктары пластмасавай цаглінкі ўсведамілі, што якраз яна дае практычна неабмежаваныя магчымасці ў канструяванні самых разнародных узораў і праектаў. Таму, пачынаючы з пяцідзесятых гадоў, фабрыка Хрыстыянсенаў пачала прадукаваць выключна пластмасавыя элементы-цаглінкі, якія сталі сусветна вядомыя пад назвай LEGO. Сёння камплекты LEGO прадаюцца ў 60 тысячах крамаў у звыш 100 краінах свету. А ў Даніі, каля мястэчка Білюнд, стварыўся велізарны цэнтр для дзяцей, так званы LEGOLAND, дзе можна пабачыць усё тое, што прыдумалі канструктары LEGO, і, натуральна, добра сабе пагуляць у канструктара.

Фірма LEGO дбае пра тое, каб кожны новы ўзор свае канструкцыі як найхутчэй паказаць дзецям. Таму штогод арганізуе міжнародныя выстаўкі. Адна з такіх выставак сёлета завітала ў Беласток. Выстаўка да 30 верасня паказваецца ў Дзяржаўнай мастацкай галерэі "Арсенал", што на вуліцы Міцкевіча 2 у Беластоку. Выстаўка адчынена штодня, ад гадзіны 10 да 18. Уваход - вольны!

Агульна кажучы, выстаўка прысвечана вялікім геаграфічным адкрыццям, пра якія вы, напэўна, чулі (альбо пачуеце) на ўроках геаграфіі. Варта прыйсці на гэтую выстаўку і паглядзець, што тым разам прыдумала фантазія канструктараў з Даніі. На выстаўцы можна таксама пагуляць з цаглінкамі LEGO. А калі прыйдзеце з татам, то можна яго ўгаварыць, каб купіў вам нейкі камплект LEGO, бо купіць на выстаўцы таксам магчыма.

ЯН МАКСІМЮК

### З НАРОДНАЙ МУДРАСЦІ

Птушцы - воля, чалавеку - мір.
Мірна жыць - шчаслівым быць.
Хто сее мір, пажынае шчасце.
Мір будуе, а вайна руйнуе.

Жаўрукі - найпершыя пасланцы вясны. На Беларусь яны вяртаюцца з выраю ў сярэдзіне сакавіка. Сонца яшчэ не паспела злізаць снег. Раніцаю і ўвечары кусаецца мароз. А жаўрукі ўжо пяюць, звіняць над полем і лесам, над вёскамі і гарадамі, вітаюць прыход вясны.

Іх у дружнай жаўруковай сямейцы - чатыры родныя браты.

Палявы.

Лясны.

Чубаты.

Рагаты.

Не бойцеся, у апошняга з братоў зусім не страшныя рожкі. Проста ў яго на галоўцы тырчаць пярынкі. Імі не надта напалохаеш драпежнага ястраба. Але жаўручок, як расказваюць старыя людзі, паднімаецца з саломінкаю ў неба і спявае:

"Пайду ястраба біць! Пайду ястраба біць!.."

Ды вось бяда - саломінка выпадае, і жаўрук каменем ляціць да зямлі. А па дарозе апраўдваецца:

"Кій упаў! Кій упаў!.."

Вельмі цікавае паданне і пра тое, як з'явіліся на нашай зямлі жаўрукі.

Неяк увесну, даўным-даўно, вандраваў па Беларусі добры чараўнік. Здарожыўся ён. І есці не меў чаго. Ажно бачыць - арэ непадалёку палетак селянін. Зямля пясчаная, а сям-там камяністая. Конік ледзь цягне драўляную саху. А ў самога гаспадара кашуля на спіне - хоць выкручвай ад салёнага поту. Прывітаўся чараўнік з хлебаробам. Слова за слова - разгаварыліся. Потым араты запрасіў падарожніка папалуднаваць. Хоць які там палудзень! Акраец чэрствага хлеба, некалькі горкіх цыбулін ды крынічнай вады збанок.

Але нездарма людзі кажуць: не




дораг абед, а дораг прывет. Падсілкаваўся трошкі падарожнік-чарадзей, пачаў распытваць у аратага пра ягонае жыццё-быццё, якую ён хацеў бы мець палёгку.

"Ніякай мне не трэба палёгкі, - адказаў яму селянін. - Толькі слухаць абрыдла, як грукае каменне аб саху..."

Добры чараўнік счакаў, пакуль адыдзецца, налягаючы на саху, хлебароб, потым узяў у рукі маленькі камень і штосілы шпурнуў яго ў неба. І толькі ён тое зрабіў - зашчабятала, зазвінела ў паднябессі шэрая пташка. Весялей пацягнуў саху знясілены конь, упершыню за цэлы дзень усміхнуўся араты...

А жаўрукі з таго часу гнездзяцца проста на зямлі. У траве, часцей за ўсё на ўзмежку поля з хмызняком. Іхніх птушанят цяжка заўважыць, бо колерам сваіх пярынак яны падобны да шэрых каменьчыкаў.

Цяжка жаўрукам несці на малых крылах званочкі вясны. Але можна дапамагчы ім. Трэба папрасіць маму, каб яна напякла з цеста чубаценькіх пташак. Потым нядзелькаю выйсці на вуліцу, як мага вышэй падкідваць іх угору над сабою і спяваць:

- Жавароначкі, прыляціце,  
Цёпла лецейка прынясіце!  
Бо зімачка надаела,  
Усе хлебушкі пераела!

Паспрабуй, мой маленькі сябар. І ты абавязкова, хоць на адну хвіліну, наблізіш прыход вясны на родную зямлю.

**УЛАДЗІМІР ЯГОЎДЗІК**

# БАБІНА ЛЕТА

Другі тыдзень запар ідзе дождж. Цярушыць і цярушыць, быццам праз сіта. А то часам і ветрам пацягне, ды такім непрыветным, што пальцы пачынаюць дубець. Здаецца, яшчэ тыдзень-другі - і на змену дажджу пасыплецца снег, ляжа на зямлю мяккім пухам, і заскрыпяць па белым некранутым першазімку вясёлыя сані.

Але вось зусім нечакана дождж перастаў ісці. Выбліснула сонейка. І ўсё навокал ажыло і павесялела... Дні сталі ціхія, сонечныя, поўныя мяккай задуменнасці і харастваа. У паветры плыве павуціннe. Тонкія серабрыстыя валаконцы асядаюць на зямлю, чапляюцца за хмызы, быльнёг. Зямля набывае матава-белы колер, а валаконцы ўсё ткуцца і ткуцца. Паглядзіш у бязмежны блакіт неба і раптам падасца табе, быццам вось-вось сыпане яно на зямлю чароўныя песні палявых жаваранкаў.

"Бабіна лета настала", - з замілаваннем кажуць у народзе аб гэтай пары восені.

**РЫГОР ІГНАЦЕНКА**

## Для самых маленькіх

**СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ**

# У КАГО НАЙЛЕПШ У ХАЦЕ

Сярод лесу, на гары,  
Пазбіраліся звяры -  
Пра жыццё пагаварыць:  
У каго найлепш у хаце,  
У каго найбольш багацця.

У мядзведзевай бярлозе  
Мох і лісце на падлозе,  
Замест столі - пні ды лом,  
Замест бэлек - буралом.  
У бярлогу цяжка ўлезці  
І няма чаго там есці.  
Як тут жыць, тут толькі спаць,  
Лапу з голаду смактаць.  
Ой, жывецца дрэнна тут,  
У мядзведзя кепскі кут.

Дзе лам'ё, галлё, кусты,  
У сасонніку густым,  
Каля каменя пад горкай  
У лісы малая норка.  
Хоць насцелены тут пух,  
Але хатка, як катух.  
У лісы малыя дзеткі  
Часам б'юцца за аб'едкі,  
І куды ты нос ні ткні,  
Дык запасаў ані-ні.  
І жывецца кепска тут,  
Дрэнны домік, дрэнны кут.

Нібы ўлез у каламазь -  
На дзіку і бруд, і гразь.  
Ён жыве у гушчары,  
Без бярлогі, без нары,  
Лычам мох, траву разрые  
І ў зямлі ляжыць па шыю.  
Ой, жывецца дрэнна тут,  
Дрэнны домік, дрэнны кут.  
Ці вы зналі, ці вы чулі,  
Што і ў зайца, і ў казулі,  
Дзе прысядуць, там і хата,  
І жывецца - беднавата.  
Кепска зайцу здаўна тут,  
І ў казулі шмат пакут.

Лось жыве не лепш у лесе.  
Рожкі віламі развесіць,  
Стане часам пад сасну,  
На хвіліначку заснуць.  
Калі наледзь або слота -  
Ледзь ён ходзіць ля балота.  
Так бывае частавата:  
Дзе ні стане - там і хата.

Хцівы воўк разявіў пашчу,  
Ён ад раніцы быў нашча.  
Не цікавіла размова,  
Ён не пікнуў ані слова.  
Голад выгнаў яго з хаты,  
І стаяў, маўчаў кудлаты.

Гляньце ўверх, зірніце зорка,  
У дупле жыве вавёрка.  
І сказаць, вядома, можна,  
Што жыве яна заможна.  
Паглядае кожны ласа  
На вавёрчыны запасы,  
Бо насыпана, як з меха,  
Шышак, ягадаў, арэхаў.  
У вавёркі працавітай  
Ад дажджу ўсё прыкрыта.  
У пакоіку дупляным  
Чыста, суха і прыбрана.  
У вавёрчынай святліцы  
Часта сон цудоўны сніцца.  
Як прыгожа, цёпла тут,  
У вавёркі добры кут.  
У яе найлепш у хаце,  
У яе найбольш багацця.

Аж да позняе пары  
Гоман быў у тым бары,  
Дзе сабраліся звяры  
Сярод лесу, на гары.



# САМЫ ЛЕПШЫ МАЛЮНАК

Маці падмятала падлогу, а Пеця сядзеў за сталом і маляваў.

- Мама, я цябе намалюю, - сказаў ён.

- Намалюй.

І Пеця намаляваў маці з венікам у руках.

Потым маці чысціла пыласосам дываны. І Пеця таксама яе маляваў.

Прыбраўшы ў кватэры, маці памыла на кухні посуд, наскрэбла бульбы. Пеця намаляваў яе і за гэтай працай.

Усе малюнкі расфарбаваў каляровымі алоўкамі. Прыгожа атрымалася маці.

Прыйшоў бацька з работы. Пеця ж адразу да яго, пахваліўся:

- Тата, зірні, якую я маму намаляваў. Вось яна падлогу падмятае, а вось - з пыласосам. А тут талеркі мые. Праўда, я добра намаляваў?

- Добра.

- А які самы лепшы малюнак?

- Той, які ты не намаляваў, - адказаў бацька.

- Які ж гэта?

- Дзе ты памагаеш маме прыбіраць кватэру, мыць посуд, бульбу скрэбці. А не толькі малюеш.

**ВАСІЛЬ ХОМЧАНКА**

# АСНОВА

Невуцтва - агрэсіўнае і злоснае,  
Кар'ерызм - паслужлівы і нахабны,  
Ляныя рукі і сэрца -  
Прагнуць салодкіх пацех і хабару.  
А жыццё - цудоўнае і грознае.  
Каб стаць чалавекам  
У наш час суровы,  
Помні жыцця асновы:  
Гавары, як вучыла маці,  
Рабі, як вучыў бацька,  
Жыві, як добрыя людзі,  
Усё, на што здольны,  
Зрабі для Радзімы;  
Злуйся не на сябра ці сяброўку,  
А на ворага і бюракрата;  
Не сядзі склаўшы рукі,  
Калі можаш нешта зрабіць:  
Выратаваць чалавека,  
Пагасіць пажар.  
Ну, а калі не выпадае,  
Хоць усміхніся малому дзіцяці.  
Не забудзь кожны дзень  
Сказаць такія словы:  
Таварыш,  
Дзень добры,  
Калі ласка,  
Дзякую.  
Не цурайся людзей,  
Каб душа не сапсела.  
Помні: жыта дзядоў  
Добра ў мэндліках спела.



**ПІМЕН ПАНЧАНКА**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Сніцца мне, што хаваю свайго малога сыночка такім, як быў хрышчаны, сама кладу яго ў труну. Грабар магілку капаў, а пясок быў сухі і сівы, не чорны. Мы пахавалі сына, а на магілку я палажыла свой світэр. Грабар быў разам з жонкаю, таксама грабаркай. Я адвярнулася ад магілкі, а там ляжыць мой сын, ва ўзросце сямі гадоў, пад фіялетавым пледам, ляжыць на бачку і спіць. Я пытаюся жонку грабара: „Што, вы яго адкапалі?", а яна кажа: „Не, ён сам вылез з той магілы. Бачыце, вы плакалі, а ён жыве, толькі спіць".

Гэта было на праваслаўным могільніку на Выгодзе, недалёка будынка, куды дзеці ходзяць на навучанне рэлігіі.

Мой сынок цяжка хворы, чакае яго аперацыя на сэрца. Маю надзею, можа, дапамогуць нам святыя мошчы дзіцяці Гаўрыіла?

**Тамара**

Даражэнькая Тамара! Бачу, што ты ўжо другі раз звяртаешся да мяне за парадай. Ну, што ж, можна зразумець маці, дзіця якой чакае аперацыя, ды аперацыя складаная — сэрца.

Мяркую, што гэты твой сон навеяны сумнай рэчаіснасцю, якая грызе тваю душу днямі і начамі. Ты ўвесь час думаеш пра небяспечную аперацыю, баішся, што можа гэта скончыцца трагічна.

Захацеўшы ўсё ж зінтэрпрэтаваць твой сон, магу пацешыць: магіла прадвяшчае шчаслівы выхад з цяжкога становішча, са смяротнага прыгавору. Аднак жа сон сведчыць і аб вялікай небяспецы, якая чакае твайго сына.

Хачу верыць, што ўсё скончыцца па тваёй думцы.

**АСТРОН**

### ШТО НОВАГА Ў БЕЛАРУСКІХ ТУРМАХ?

Сягоння на Беларусі ў месцах зняволення адбываюць пакаранне 19 тыс. чалавек. Чакаецца, што з Расеі па яе патрабаванню будуць вернутыя яшчэ каля 5 тыс. асуджаных. У сувязі з гэтым у сістэме МУС Рэспублікі Беларусь плануецца збудаваць новыя "папраўчыя ўстановы" ў Лідзе, Жодзіне, Магілёве і Мазыры.

Адбываецца і вымена асуджанымі з новапаўсталымі суверэннымі дзяржавамі: 180 чалавек адпраўленыя ў Балтыю, каля 100 чалавек у Арменію і Азербайджан. З Украінай дасягнутая дамоўленасць, што "нашыя" дасядзяць там, а "іхнія" тут. Гэта няшмат - прыблізна па 200 чалавек з кожнага боку. Што тычыцца блізка 300 расейцаў, адбываючых тэрмін у беларускіх турмах, то іх адпраўка ў Расею затрымваецца, таму што расейскі бок жадае, каб Беларусь адначасова забрала сваіх асуджаных, якіх значна больш.

За першую ж палову 1992 года на Беларусі вызвалена 976 чалавек, адбыўшых кару, а таксама 205 чалавек вызваленыя ў сувязі з пераглядам судовых прыгавораў, па хваробе ці ўмоўна-датэрміновa. Але на змену ім паступіла ажно 4.094 асуджаных...

Дадатковыя кошты на разбудову турмаў на Беларусі складаюць у актуальных цэнах 46 млн. савецкіх рублёў.

### ДУРНІ НА КАМЧАТЦЫ

У Петрапаўлаўску-Камчацкім журналісты тэлекампаніі ВТК правялі апытанне жыхароў горада. Трэба было правільна адказаць на адно-адзінае пытанне: **"Хто напісаў "Паланез Агінскага"?** Адказы былі самыя розныя - Чайкоўскі, Бах, Моцарт і г.д. Правільна не адказаў ніхто... Палітычная партыя "Дурні Камчаткі" святкуе сваю перамогу і выказвае гатоўнасць прыняць у свае шыхты ўсіх жыхароў горада.

### У НАС ЯШЧЭ ЁСЦЬ ШТО КРАСЦІ

Толькі за два тыдні пачатку лета міліцыя і служба бяспекі Рэспублікі Беларусь затрымалі кантрабанднага бензіну 500 т у аўтацыстэрнах і 1200 т на чыгунцы. Усё гэта спрабавалі пераправіць у Літву, дзе кошт аднаго літра дасягае 20 савецкіх рублёў. На Беларусі, дзе продаж паліва лімітаваны, кошт - 7-8 рублёў. Такім чынам, злачынцы мелі зарабіць 2,25 млн. рублёў альбо 15 тыс. амерыканскіх долараў паводле "чорнага" курсу ў Гародні.

У Польшчу цягнуць каляровы мэтал: медзь, латунь, бронзу, цынк, нікель і астатнюю табліцу Мендзялеева. Апошняя затрыманая партыя - 1,5 тоны нікелю, які польскія грамадзяне ўжо вывозілі з аднаго дзяржаўнага прадпрыемства ў Гародні. На чыгунцы затрыманыя "левыя" два вагоны /!/ з меддзю і алюмініем, якія без усялякіх дакументаў падрыхтавала да "экспарту" адна прыватная фірма.

Што ж, пэўна яшчэ жыве Беларусь...

**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

## АБ'ЯВА






### З ГРЭЦКАЙ КУХНІ

**Мусака з цукініі**

Прадукты: 1,5 кг цукініі, шклянка алею, 0,5 кг змеленага мяса (ялавічыны), 1 вялікая цыбуліна, 1 зубок часнаку, 2 поўныя лыжкі масла, 3 сярэднія памідоры, 2 лыжачкі солі, крыху перцу, 2 поўныя лыжкі сцертай сухой булкі, 3 яйкі, зяляніна пятрушкі, 25 дэкаў белага сыру, 5 дэкаў сцертага вострага сыру, бешамелевы соус.

Нарэзаць абабраную цукінію тоненькімі скрылёчкамі. На вялікай патэльні разагрэць алей і смажыць па некалькі скрылёчкаў, пасля злажыць іх на асобную талерку. Разагрэць масла, падаграваць дробна нарэзаную цыбулю і часнок, каб змякчэлі. Тады пралажыць у гэта змеленае мяса, смажыць яго на працягу некалькіх мінут, дадаць абабраныя і без семечак памідоры, пасыпаць соллю і перцам. Накрыць і тушыць на малым агні паўгадзіны. Зняць з агню, усыпаць цертую булку, перамяшаць, дадаць 1 збітае яйка і жменю пасечанай зяляніны пятрушкі.

Падрыхтаваць бешамелевы соус, дадаючы 2 яйкі і белы сыр. Змазаць маслам посуд для запякання і абсыпаць у сярэдзіне сцертай булкай. Класці па чарзе пласты з скрылёчкаў цукініі і мяса, але так, каб знізу і зверху была цукінія. Заліць бешамелевым соусам, пасыпаць сцертым сырам і запякаць у духоўцы каля 45 мінут.

**ГАСПАДЫНЯ**

## КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) калодзеж, 4) абяцанне, 8) паўзучыя сцяблы ягаднай расліны, 11) від музыкі родам з Амерыкі, 12) зімовая павозка, 13) машына для пасеву насення, 15) прадстаўніца народнасці, якая пражывае ў Дагестане, 16) водная расліна, якая расце па берагах рэк, 17) частка адзення, якая прылягае да шыі, 19) прадстаўнік старажытнага скандынаўскага народу, 21) востраў у Малайскім архіпелагу, 22) беларускі паэт, аўтар вершаваных казак, кнігі „Чытанка-маляванка", 23) прыстасаванне для паення жывёлы, 25) гідратэхнічнае збудаванне, 27) дробныя свінцовыя шарыкі, 28) поле з-пад бавоўніка, 30) частка, фрагмент, 31) чатырохрадкоўе, якое мае закончаную форму.

**Уніз:** 1) клуня, 2) маса з бітага каменя, цэглы, шкла, 3) дол, упадзіна, 5) базар, 6) пералік, 7) суддзя, 8) аматар жаночай прыгажосці, 9) машына, якой ачышчаюць збожжа, 10) здольнасць голасу спевака ўпрыгожваць вакальныя партыі пасажамі, трэлямі, руладамі, 13) тыран, дэспат, 14) касцяк, падмурак, падстава, 18) алеістая ядавітая вадкасць без колеру, якая ўжываецца пры вырабе фарбаў, лякарстваў, 21) фурман на паштовых конях, 24) тое, чым накрываюць, апінаюць, 26) вялікае памяшканне для сходаў, 27) старажытная ахоўная зброя.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 32 н-ра. Управа:** тэрцэт, тварог, тамада, турнір, турыст, Турцыя, трагік, тэолаг. **Улева:** тропік, турбан, тварэц, тампон, тырада, тэрмін, тэрасы, тратыл.

Правільны адказ даслаў Аляксандр Дабчынскі з Беластока.






"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel.210-33.
Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Яланта Панфілюк (карэктар), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.

2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МА КАТ РАЗМЫ

**ВАСІЛЬ ПЕТРУЧУК**

Выйшаў ён на „Пожню",
Дзынкнуў медалямі,
Пастушкам знямоганым
Уручыў дынаміт.

**БАЯВЫ ЗАКЛІК**

Прыгнёныя мацюкамі,
Брыкайцеся нагамі!

**СІДАР МАКАЦЁР**

### АНЕКДОТЫ

Каля хворага мужа сядзіць яго жонка, плача і гаворыць:

— Што б табе даць, мой любы, кашкі?

— Не хачу... — адказвае хворы.

— Можа, боршчыку?..

— Не хачу...

— То, можа, бульбачкі?..

— Не хачу, — аж стогне муж.

— А можа гарэлачкі?

— А Бог яго ведае...

* * *

Увайшла бабуля ў вагон з поўным кошыкам, села і сядзіць. Аж вось і білеты правяраюць.

— Бабусю, — кажа кандуктар, — у вас ёсць білет?

— Ёсць, — кажа тая, паказваючы.

— Гэты не гадзіцца, — кажа кандуктар, гледзячы на білет.

— Як не гадзіцца?! — здзіўляецца бабуля. — Сем дзён гадзіўся, а цяпер не гадзіцца?!

* * *

Бацька тлумачыць малому Міхаську:

— Ты ўжо дастаткова вялікі і павінен ведаць, што ніякага Дзеда Мароза няма. Гэта быў я...

— Ведаю, ведаю. Бусел гэта таксама ты.

* * *

— Чуў? Мікалая жонка пакінула.

— Не можа быць! І як ён?..

— Ужо крыху супакоіўся, а спачатку думалі мы, што здурэў.

— З роспачы?

— Ды не, з радасці!

* * *

—Бачыла, як гэтая дзяўчына ўсміхалася да мяне? — пытае Кастусь жонку.

— Магчыма, — адказвае Кастусіха. — Калі я цябе ўпершыню ўбачыла, дык ад смеху ледзь не лопнула.

* * *

— Не магу больш глядзець на сваю жонку! — скардзіцца Кастусь. — Проста вушы мне пратрубіла — увесь час паўтарае адно і тое ж цэлыя тры месяцы запар.

— А што яна ад цябе хоча?

— Каб я вынес з кватэры калядную ёлку.

Падборку зрабіў
**ЯСЕНЬ**

## НІЎКА



*– Казалі, што нявеста нічога не ўмее, а бачыш, як прафесійна ўплятае.*
**Мал. М. Гіргеля і Р. Друкмана.**

### ЗАБАЛАЦІРАВАЛІ

У апошні час прадпрыемства ліхаманіла. Пачалі шукаць прычыны, знайшлі вінаватага. Звольнілі начальніка аддзела забеспячэння Ліўшыца Арона Абрамавіча, чалавека пенсіённага ўзросту.

На яго месца вылучылі дзве кандыдатуры: намесніка Ліўшыца — Івана Васільевіча Лапату, які, усе ведалі, цягнуў хамут за былога загадчыка, і Леаніда Майсеевіча Свейку — майстра цэха н-р 2, пра забеспячэнскія таленты якога ніхто нічога не ведаў, апроч хіба таго, што Свейка быў на сяброўскай назе з Ліўшыцам. Пачалося абмеркаванне кандыдатур.

— Іван Васільевіч, — звярнулася прыбіральшчыца цётка Марыся да Лапаты. — Скажы, талоны на гарэлку за гэты месяц атаварыў?

„Во пытанне.., — сумеўся Лапата. — Што сказаць? Скажаш атаварыў, — падумаюць схільны да алкаголю..."

— Не, не атаварыў! — упэўнена салгаў Лапата.

— А на цукар? — не адставала Мар'я.

У іншай сітуацыі, канечне, ён сказаў бы ёй пару ласкавых слоў, а тут — дэмакратыя, чорт бы яе пабраў, падумаў: усё на спіртное намякае, старая ведзьма. Стаў ліхаманкава думаць: ці не ўгледзела дзе гэтая ведзьма яго нападпітку. Не-е, канечне... П'яным яго ніхто за апошні месяц не бачыў, а што цукар (пяць кіло) аддаў цешчы на пераапрацоўку, дык хто пра гэта, акрамя той жа цешчы, ведае?

— Не, і на цукар не атаварыў, — пасля працяглай паўзы ўпэўнена адказаў Лапата і з палёгкаю ўздыхнуў.

— Дык вось што я хачу сказаць, таварышы, прабачце, спадары і спадарыні! — зноў высунулася Мар'я. — Не можа Лапата быць начальнікам аддзела. Ну які з яго забеспячэнец, калі нават сваю сям'ю не можа забяспечыць?

Лапата чакаў усяго, толькі не такога павароту. Не памятаючы сябе, ускочыў і, чырванеючы, зычным голасам прызнаўся:

— Таварышы, ды я ўсе талоны атаварыў...

У зале пачуўся смяшок, потым — рогат. Зноў выскачыла Мар'я:

— Во, бачыце, ён да ўсяго яшчэ і хлус! Не, такога выбіраць няможна. Раз схлусіў — няма веры!

Лапату забалаціравалі. Амаль аднагалосна абралі Свейку, які атаварыў талоны не толькі на гарэлку і цукар, а нават на манку, на цыгарэты, хоць ні сам і ніхто ў сям'і не курыць...

**ІВАН АЎСЕЙЧЫК**
(„Вожык")

### З ПАДСЛУХАНАГА

**Певень:**
— Думаеце, так проста накукарэкаць світанак?
**Аса:**
— Мой мёд таннейшы за пчаліны: яны надта трацяцца на архітэктуру сваіх сотаў.

*Запісаў М. Підорын*

## ДВА ГОРЛЫ

Мікалай Выцягайла — новы старшыня калгаса „Перамога", у якім за ўвесь час яго існавання так ніводнай перамогі і не было зафіксавана, — напачатку сталаваўся ў пенсіянеркі бабкі Насты. Позна вечарам, вярнуўшыся са сходу, згаладнелы, як воўк у піліпаўку, адразу ж сеў за стол. Гаспадыня падала стравы і, хітравата падміргнуўшы, наліла стограмовачку настойкі.

— Выпі, саколік, не саромейся, яда пойдзе, як па масле, у горле не засядзе.

— Выцягайла доўга не вагаўся, падняў чарку, пажадаў бабулі здароўя. Тут жа папярхнуўся, закашляўся.

— Што з табой, саколік? — занепакоілася бабка Наста.

— Відаць, не ў тое горла трапіла, — скрозь слёзы адказаў Выцягайла.

Назаўтра раніцай бабка Наста, каго б ні сустракала, успялёсквала рукамі і прыгаворвала:

— Гэта ж папярэдні старшыня, меўшы адно горла, ледзь увесь калгас не прапіў, а гэты жабракамі па свеце пусціць.

— Чаму бабулька? — допытваліся аднавяскоўцы.

— Дык жа ў яго два горлы!

## РАЙ

Рай абяцалі камуністы.
Цяпер маўчаць,
няма чым крыць.
Мы ў тым раі, нібы нудзісты:
Няма і сорам чым прыкрыць.

**ЛЕАНІД ГЛУШКО**



*Мал. Ігара Варашкевіча*

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Пішу ўжо табе не першы раз. Ты мне заўсёды раіла, як умела, каб было мне лягчэй. Але сёння не магу паўстрымацца, каб зноў не напісаць. Справа ў тым, што вярнуўся мой муж-валацуга, якога пяць гадоў не было з намі. То ў бацькоў, то ў дзяўчат, то ў нейкіх раз'ездах. І так бывала ўжо не раз, што адыходзіў і вяртаўся.

Але на гэты раз я думала, што ўжо застанецца з намі назаўсёды і на добрае. Сэрцайка, нягледзячы на ўсё, што ён зрабіў нам — мне і нашым дзецям, я яго заўсёды чакала. Але за гэты апошні год нейк сэрца суцішылася, і я нават паспакайнела. Як ты калісь раіла, я „пахавала" свайго мужа. Вырашыла, што магу жыць і без яго.

На жаль, калі ён вярнуўся, высветлілася, што ўсё гэта не так проста. Ізноў нахлынулі на мяне пачуцці. Наша каханне, першыя гады супольнага жыцця ўсталі перад вачамі. Увесь мой жаль, смутак, крыўда выліліся ў чуллівасці да яго. Мне хацелася ўвесь час прытуляцца да яго, цалавацца, песціцца.

Ну... і хутка яму гэта надакучыла. А я ж ужо ўсё яму даравала: і тое, што не працаваў, і тое, што не даваў грошай не толькі на дзяцей, але на сваё ўтрыманне. Абы быў з намі. Ужо назаўсёды, да канца жыцця. Сама рабіла з дзецьмі ў хаце нават мужчынскую работу. Абы ён быў задаволены і шчаслівы ў нашай хаце.

Калі пару дзён назад ён адпіхнуў мяне ад сябе, дадаўшы: „osrałem już te sprawy", я не вытрымала і выказала яму ўсё, што на душы накіпела. Загадала яму шукаць працу, даваць грошы на дзяцей ды памагаць у хаце. А ён не адазваўся ніводным словам. Сабраў свае небагатыя манаткі і выехаў ізноў.

Вярнуўся неспадзявана праз два дні, чужы і незразумелы. Не патраплю далей так жыць. Парай, што рабіць!

**Ліля**

Ліля! Ты была з ім усе гэтыя пяць гадоў, не будучы разам, бо чакала, кахала і думала пра яго. Мо, калі б не паявіўся ізноў, гэтая справа неяк памаленьку заглохла б, калі табе здалося, што ты „пахавала" яго. Калі ты ізноў убачыла яго, з усёй сілай нахлынулі на цябе пачуцці.

Не сумняваешся, бадай, што ён пра цябе ў той 5-гадовы перыяд не думаў?! Вярнуўся, бо, пэўна, у даны момант не мае куды падзецца. Вось і прызямліўся ў вас.

Ты гатова была дараваць яму ўсё, карміць-паіць яго, валацугу, толькі за тое, што часам будзе да каго прытуліцца. А яму, сама бачыш, гэта непатрэбна. Хопіць хлеба-солі, а рэшту ён атрымае дзе-інш.

Шкада мне цябе, Ліля. Якому чалавеку ты верыш? Ён жа ўжо не раз ашукваў цябе. Ашукае і на гэты раз, як толькі сабе знойдзе новае прыстанішча. Гані яго к чорту! Будзеш спакайнейшай і вальнейшай. А вольны чалавек — сам сабе панам.

**СЭРЦАЙКА**